● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● кошт 3000 рублёў

14 ліпеня 1998 г. аўторак, № 140 (23491)

# ЗВЯЗДА



## УРАГАН НАД КРУПСКІМ РАЁНАМ

**У выніку ўрагану, які пранёсся 11 ліпеня над Крупскім раёнам (Мінская вобласць), пацярпеў адзін чалавек і раёну нанесены значны матэрыяльны ўрон.**

Як паведаміў БелаПАН начальнік штаба грамадзянскай абароны Мінскай вобласці палкоўнік Уладзімір Кузькін, у выніку стыхійнага бедства пацярпела 47-гадовая цялятніца з вёскі Узнацк Ігрушкаўскага сельсавета. «Смерч пранёс жанчыну па паветры прыкладна дзесяць метраў і кінуў яе вобзем.

Пацярпелая шпіталізавана і знаходзіцца ў рэанімацыі са шматлікімі пераломамі і страсеннем мазгоў», — распавядаў У.Кузькін. Па яго словах, у вёсках Узнац, Узнацк і ў цэнтры сельсавета Хацюхова сарваны дахі з 24 дамоў і двзюх малочнатаварных фермаў, з механічнай майстэрні і шматлікіх гаражоў, разбураны склад матэрыяльна-тэхнічных сродкаў і два цялятнікі. Пашкоджана таксама два кіламетры лініі электраперадачы і парушана тэлефонная сувязь. «На працягу суботы і нядзелі дахі жылых дамоў былі накрыты, рамонт вытворчых памяшканняў пачаўся 13 ліпеня. Вобласць аказвае дапамогу шыферам і грашыма», — адзначыў Уладзімір Кузькін.

**Марат ГАРАВЫ, БелаПАН.**

***Ходзяць чуткі, што...***

## на Беларусь зноў прыйдзе ўраган

Літаральна ўвесь учарашні вечар у рэдакцыі гучалі званкі чытачоў, якія задавалі па сутнасці адно і тое ж пытанне -- ці праўда, што ў сераду па Беларусі зноў праімчыцца ўраган разбуральнай сілы? Мы таксама вырашылі пацікавіцца гэтым пытаннем.

У Рэспубліканскім штабе грамадзянскай абароны, куды патэлефанаваў карэспандэнт газеты, здолелі толькі паведаміць, што ніякімі звесткамі аб магчымых стыхійных бедствах тут пакуль не валодаюць. Між тым, паводле прагноза сінаптыкаў, сёння нас чакаюць дажджы з навальніцамі, а парывы ветру ў некаторых рэгіёнах будуць дасягаць 15--20 метраў у секунду. Так што ў любым выпадку чакаць прыемных сюрпрызаў ад надвор'я нам, як быццам, па-ранейшаму не выпадае.

**Сяргей ГРЫБ.**

## ПРЭЗІДЭНТ НА МЕСЦЫ ПРАВЕРЫЦЬ, ЯК ВЫКОНВАЕЦЦА ЧАРНОБЫЛЬСКАЯ ПРАГРАМА

**Ход выканання дзяржаўнай праграмы па пераадоленню і мінімізацыі наступстваў чарнобыльскай катастрофы і даручэнняў прэзідэнта краіны Аляксандра Лукашэнкі, дадзеных ім у час папярэдніх наведванняў забруджаных тэрыторый, будуць дэталёва прааналізаваны ў час чарговай паездкі кіраўніка дзяржавы ў гэты рэгіён, якая адбудзецца 14-15 ліпеня.**

У гутарцы з карэспандэнтам БЕЛТА начальнік упраўлення рэабілітацыі забруджаных тэрыторый Міністэрства па надзвычайных сітуацыях Генадзь Анцыпаў адзначыў, што на рэалізацыю чарнобыльскай праграмы, раслічанай да 2000 года, кожны год траціцца каля 10 трыльёнаў рублёў, што складае 9,8 працэнта расходнай часткі бюджэту краіны. Гэтым дакументам вызначаецца стратэгія работы міністэрства. Перш за ўсё, праграма ўключае ў сябе вялікі комплекс мерапрыемстваў, звязаных з рэалізацыяй Закона аб сацыяльнай абароне грамадзян, якія пацярпелі ў выніку аварыі на ЧАЭС: аздараўленне дзяцей, забеспячэнне харчаваннем школьнікаў, розныя кампенсацыйныя выплаты і гэтак далей.

(Заканчэнне на 3-й стар.)

## ПРЭЗІДЭНТ ЗАКЛІКАЎ ЧЛЕНАЎ ПРЫЁМНЫХ КАМІСІЙ ПРАЦАВАЦЬ ВЫКЛЮЧНА СУМЛЕННА І АДКРЫТА

«Мы павінны забяспечыць аднолькавыя ўмовы паступлення ў ВНУ краіны ўсім яе маладым грамадзянам. Прыёмныя камісіі павінны працаваць выключна сумленна і адкрыта». З такімі словамі звярнуўся прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка да членаў дзяржаўнай камісіі па ажыццяўленню кантролю за работай прыёмных камісій і правядзеннем уступных экзаменаў на нарадзе, якая адбылася 13 ліпеня ў рэзідэнцыі кіраўніка дзяржавы.

Прэзідэнт адзначыў, што ў апошнія гады ў нашай краіне склалася добрая традыцыя — напярэдадні ўступных экзаменаў у ВНУ кіраўнікі прыёмных камісій рэспубліканскага і абласнога ўзроўняў сустракаюцца з кіраўніком дзяржавы, каб далажыць яму аб гатоўнасці вышэйшых навучальных устаноў да гэтай важнейшай падзеі ў жыцці Беларусі.

«Сённяшні абітурыент, заўтрашні беларускі студэнт — будучыня нашай краіны, інтэлект нацыі», — сказаў Аляксандр Лукашэнка. Прэзідэнт падкрэсліў таксама, што прэстыж вышэйшай адукацыі ў Беларусі цяпер як ніколі вялікі. Нават у савецкія часы не было такіх высокіх конкурсаў пры паступленні ў беларускія ВНУ.

На думку кіраўніка дзяржавы, працэс правядзення экзаменаў сёння нельга пакідаць без кантролю. У адваротным выпадку не будзе гарантый, што таленавітыя, але малазабяспечаныя маладыя людзі паступяць у дзяржаўныя ВНУ. Таму, лічыць Аляксандр Лукашэнка, неабходны яшчэ больш жорсткі кантроль над працэсам прыёму экзаменаў. І калі будзе выяўлены хоць адзін факт парушэння, вінаватая ў гэтым службовая асоба будзе строга пакарана, аж да ўзбуджэння крымінальнай справы, заявіў прэзідэнт.

Удзельнікі нарады заслухалі справаздачы кіраўнікоў прыёмных камісій аб гатоўнасці ВНУ краіны да правядзення ўступных экзаменаў. З дакладам выступіў міністр адукацыі Беларусі Васіль Стражаў.

**БЕЛТА.**

## Максім МІРНЫ: «Летась я мятровага шчупака выцягнуў, а сёлета Уімблдонскі турнір выйграў»

Эксклюзіў з «зоркай»

Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.

***Беларускі тэнісіст Максім Мірны, напэўна, на ўсе сто апраўдвае сваё прозвішча — чалавек ён незлаблівы і заўсёды прытрымліваецца прынцыпу: «Хто старое памяне, таму вока вон». Праўда, год назад крыху «засвяціўся» ў скандальнай хроніцы, калі адмовіўся выступаць за зборную Беларусі, ад якой яго пасля і адлучылі. Аднак затым Максім Мірны пamірыўся з беларускай Асацыяцыяй тэніса і зараз працягвае выступаць за беларускую зборную. Ды яшчэ як! Чаго варты той факт, што тыдзень назад Максім у пары з амерыканкай Серэнай Уільямс стаў пераможцам знакамітага Уімблдонскага турніра!***

***...«Героя дня» наш учарашні тэлефонны званок застаў на тэнісных кортах англійскага гарадка Брыстол, дзе зараз праходзіць міжнародны турнір серыі сатэлітаў з прызавым фондам у 50 тысяч долараў.***

**— Максім, з Мінска патурбавалі вас, з газеты «Звязда». Віншуем з перамогай на Уімблдоне!**

— Вось дык прыемная нечаканасць! Дзякую! Дарэчы, вы можаце мяне і яшчэ раз павіншаваць — некалькі хвілін назад мы ў пары з нашым Валодзем Валчковым выйшлі ў фінал гэтага турніра, і сёння ж увечары згуляем за першае месца супраць аўстралійскага дуэта Бена Элвуда і Уэйна Артурса.

(Заканчэнне на 2-й стар.)



## Тэмпы касьбы замарудзіліся

Як паведамілі карэспандэнту «Звязды» ва ўпраўленні кормавытворчасці Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання, паводле апошніх даных скошана шматгадовыя травы на плошчы 1,8 мільёна гектараў (86,9 працэнта планавага паказчыка).

Нарыхтавана 2,3 мільёна кармавых адзінак (45 працэнтаў да плана). Тэхнічныя магчымасці гаспадарак, на думку спецыялістаў, дазваляюць скончыць першы ўкос на працягу 7—10 дзён. Аднак з-за дрэннага надвор'я, як лічаць аграрыі, аптымальныя тэрміны будуць вагацца ў межах двух тыдняў, а то і больш.

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**



## «Звязда» едзе ў Расоны

**15 і 16 ліпеня ў Расонах і Расонскім раёне будзе працаваць «выязная прыёмная» газеты «Звязда», Федэрацыі прафсаюзаў, Міністэрства сацыяльнай абароны і Міністэрства аховы здароўя.**

Яна пачне працаваць 15 ліпеня ў 15 гадзін у памяшканні гарадскога Дома культуры Расон. Таксама 15 ліпеня, але ўжо пачынаючы з 19 гадзін, сустрэчы з насельніцтвам пройдуць адначасова ў вёсках Забор'е і Дворышча. На наступны дзень, 16 ліпеня, з 8 гадзін раніцы ўдзельнікі «выязной прыёмнай» будуць знаходзіцца ў вёсках Краснаполле і Сяляўшчына.



*«Не каўбойская гэта справа!»*

Фота Максіма МАЛІНОЎСКАГА.

***УСМІХНЁМСЯ!***

Муж глядзеў па тэлевізары футбольны матч і заснуў.

— Уставай, — будзіць яго жонка, — ужо дванаццаць.

— На чыю карысць? — з трывогай пытае муж.



# РОЗГАЛАС

## АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА АЗНАЁМІЎСЯ З ХОДАМ ПАДРЫХТОЎКІ ДА ПРАВЯДЗЕННЯ «СЛАВЯНСКАГА БАЗАРУ Ў ВІЦЕБСКУ»

**Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка прыняў 13 ліпеня старшыню аргкамітэта па падрыхтоўцы і правядзенню Міжнароднага фестывалю мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску» намесніка прэм'ер-міністра Беларусі Уладзіміра Замяталіна і намесніка старшыні гэтага аргкамітэта міністра культуры нашай рэспублікі Аляксандра Сасноўскага.**

Як паведамілі БЕЛТА ў прэсслужбе Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, кіраўнік дзяржавы заслухаў інфармацыю аб выніках пасяджэння аргкамітэта, што адбылося напярэдадні правядзення міжнароднага фестывалю мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску». Уладзімір Замяталін і Аляксандр Сасноўскі далажылі; план работы аргкамітэта, які быў сфарміраваны чатыры месяцы таму і прадстаўлены прэзідэнту, у частцы арганізацыйных мерапрыемстваў рэалізаваны.

Аляксандр Лукашэнка падкрэсліў, што міжнародны фестываль мастацтваў у Віцебску павінен стаць святам славянскай культуры з шырокім прадстаўніцтвам іншых дзяржаў. Прэзідэнт Беларусі адзначыў высокі ўзровень саставу ўдзельнікаў фестывалю і станоўча ацаніў пацвярджэнне прэзідэнта Украіны Леаніда Кучмы, што ў «Славянскім базары ў Віцебску» прыме ўдзел дэлегацыя гэтай краіны на дзяржаўным узроўні.

**БЕЛТА.**

## ПРЭЗІДЭНТ АБ'ЯВІЎ ЛЕАНІДУ КОЗІКУ ПАДЗЯКУ

Падзяка Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь аб'яўлена намесніку прэм'ер-міністра краіны Леаніду Пятровічу Козіку. Як адзначаецца ў падпісаным 13 ліпеня кіраўніком дзяржавы распараджэнні, прэзідэнцкай падзякі віцэ-прэм'ер удастоіўся за шматгадовую плённую працу і ў сувязі з 50-годдзем з дня нараджэння.

**БЕЛТА.**

## У КІРАЎНІКА БЫЛІ СВАЕ ЦЭНЫ НА ПРАДУКЦЫЮ...

**Следчым падраздзяленнем Рагачоўскага РАУС накіравана ў суд крымінальная справа ў адносінах да дырэктара аднаго з мясцовых заводаў, які выкарыстоўваў службовае становішча ў карыслівых мэтах.**

Паводле папярэдніх матэрыялаў следства, ён з лютага па май 1987 года шэрагу камерцыйных прадпрыемстваў адпускаў прадукцыю па адных цэнах, а ў дакументах указваў іншыя. Розніца, якая асела ў кішэні прадпрымальнага дзялка, склала 50 мільёнаў рублёў. На маёмасць хцівага дырэктара накладзены арышт.

Дарэчы, нельга лічыць гэты выпадак выключным. Наадварот, падобная практыка агульнавядомая. І не толькі з боку прадаўца, але і пакупніка. Напрыклад, кіраўнік прадпрыемства набывае ў камерсантаў апаратуру. Даведаўшыся кошт, указвае суму, на якую трэба яго павысіць. Прадпрымальнікі згаджаюцца, бо галоўнае — збыць тавар. Атрымліваюць грошы, а ўказаную розніцу вяртаюць «налічкаю» кіраўніку-партнёру. Такая практыка выкарыстоўваецца не толькі пры вялікіх здзелках. Капейчыну «развароплівы» дырэктар можа зрабіць на чым заўгодна. На тым жа тэлефоне ці факсе. Асабліва частыя гэткія дамовы падчас рамонтаў.

Рагачоўскі выпадак можа быць нетыповым толькі ў адным: выявіць удзельнікаў здзелкі вельмі складана.

**Міхась БЕРАСТ.**



## Хай у Светлагорску заззяе полымя надзеі і шчасця

Ніна Фёдараўна Панцялеева ўпэўнена, што невялікая газавая пліта, якую мы ўручылі ёй у рэдакцыі, не толькі дапаможа ў прыгатаванні ежы, але і сагрэе адзінокую жанчыну прамяністым цяплом свайго полымя. Сагрэе гэтак жа, як грэе душу «Звязда» словам беларускім — шчырым і спагадным.

«Забываеш цяжкую дваццацігадовую працу на светлагорскім «Хімвалакне», цяжкае пасляваеннае дзяцінства, хочацца прыхінуцца да радзімы, роднага кутка, калі трымаеш у руках «Звязду», — кажа Ніна Фёдараўна.

Мы дзякуем за цёплыя словы ў свой адрас, жадаем чытачцы здароўя. Няхай стрэне вас, шаноўная Ніна Фёдараўна, сапраўднае жаночае шчасце.

**Віктар ХУРСІК.**

## КОЛЬКІ МОГУЦЬ ВЫПІЦЬ МАЛДАЎСКІЯ МІНІСТРЫ?

За 45 хвілін палёту з Кішынёва ў Бухарэст урадавая дэлегацыя Малдавіі выпіла па тры бутэлькі каньяку «на душу». Такая колькасць дарагога напітку была выпіта імі ў рэкордна кароткі тэрмін толькі... у справаздачы расходаў на камандзіроўку. Даць ацэнку гэтаму і мноству іншых злоўжыванняў казённымі сродкамі трэба будзе спецыяльнай камісіі. Паводле падлікаў парламенцкіх фракцый, урон ад махінацый складае ад 4 да 8 млрд. леяў і роўны адпаведна аднаму-двум гадавым бюджэтам рэспублікі.

**«АиФ—Новости»**

## «ЛЕТАСЬ Я МЯТРОВАГА ШЧУПАКА ВЫЦЯГНУЎ, А СЁЛЕТА УІМБЛДОНСКІ ТУРНІР ВЫЙГРАЎ»

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

А ўжо заўтра я і Валодзя вылятаем у Марока, дзе сустрэнемся з беларускай зборнай і правядзём там гульню супраць мараканцаў у матчы Кубка Дэвіса.

**— Калі вы не супраць, давайце вернемся да Уімблдона — гэта быў самы сапраўдны трыумф беларускага тэніса. У адзіночных разрадах у паўфінал выходзіць наша Наташа Зверава, у 1/16 фіналу — малады Валодзя Валчкоў, вы становіцеся пераможцам у пары з амерыканкай...**

— Так, і я лічу асабіста для сябе гэта сваім самым вялікім поспехам за спартыўную кар'еру. Гэтак жа, напэўна, як і Валодзя, і Наташа.

**— Ваша напарніца — цёмнаскурая амерыканка Серэна Уільямс. Як вы знайшлі сваю палову — я маю на ўвазе у спартыўным сэнсе?**

— У ва многім дзякуючы майму бацьку. Ён падабраў для мяне, як вы ўжо сказалі, «палову» і прапанаваў ёй гуляць са мной у пары. Да гэтага мы разам у Амерыцы трэніраваліся і ведалі адзін пра другога зусім не шмат.

**— У жыцці вы таксама сябруеце?**

— Калі вы ківаеце на нейкія асабістыя адносіны паміж намі, то я вас расчарую — мы з Серэнай сапраўды сябры па жыцці, аднак далей гэтага нашы «пачуцці» не заходзяць. Можам, вядомая справа, кудысьці схадзіць, пасядзець разам, Серэна вельмі абаяльны і камунікабельны чалавек, але «зліянне душ» у нас толькі пад час гульні.

**— Пасля перамогі вас хтосьці павіншаваў?**

— Натуральна. Падыходзіў першая ракетка свету Піт Сампрас, павіншаваў, іншыя знаёмыя. Прыемна.

**— Максім, на наступнае пытанне вы можаце не адказваць, калі пажадаеце, аднак калі я яго не задам, то мяне проста не зразумеюць чытачы. Дзесьці год назад вы запатрабавалі ад беларускай Асацыяцыі тэніса энную суму ў «зялёных» за тое, што будзеце выступаць за зборную. «Зялёных» вам не далі, адлучылі ад каманды, якая тады ў ва многім з-за вас і прайграла, абвінавацілі ў непатрыятызме, а праз год вы, як бы пакаяліся, і дыскваліфікацыю з вас знялі. Што тады ўсё ж адбылося?**

— Гэта доўгая гісторыя, і расказваць яе трэба не па тэлефоне — калі-небудзь мы спакойна пасядзім, і я ўсё вам растлумачу. Скажу толькі, што я часткова прызнаў сваю віну, аднак былі там і яшчэ іншыя невялічкія нюансы. Давайце пра гэта ў іншы раз...

**— Згода. Тады, калі вы не супраць, крыху адыдзем ад тэніса. Чым займаецеся ў вольны час?**

— У асноўным іграю на гітары — гэта маё хобі, гэтым я хвараю. А так... З бацькам, калі даводзіцца разам сустрэцца, заўсёды ездзім рыбу вудзіць. Летась у Галандыі я злавіў шчупака аж на 97 сантыметраў. Праўда, выцягваў яго бацька.

**— У асабістым жыцці?**

— Вось тут я на вуду яшчэ не патрапіўся і пакуль не хачу. Увесь жа час займаюся тэнісам.

**— Тэнісістаў лічаць багатымі людзьмі, ці не так?**

— Магчыма, аднак сябе я да такіх і прылічаю. Хапае грошай, каб ездзіць на турніры, гуляць, але да нейкіх доларавых мільянераў мяне аднесці ніяк нельга.

**— Галоўнае, каб душой багаты быў...**

— І не без гэтага.

**— Што ж, поспеху вам.**

— І вам таго ж. Вы вось патэлефанавалі і на душы пасвятлела. Гэтак жа як і на вуліцы — у Англіі два дні лілі дажджы.

**Алесь СІВЫ.**

## Пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь
## АБ ПЕРАЎТВАРЭННІ БЕЛАРУСКАГА АДУКАЦЫЙНА-КУЛЬТУРНАГА ЦЭНТРА МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ

У мэтах захавання і развіцця нацыянальных культурных традыцый Беларусі і стварэння спрыяльных умоў для падтрымання творчай і таленавітай моладзі Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Пераўтварыць ва ўстаноўленым парадку Беларускі гуманітарны адукацыйна-культурны цэнтр Міністэрства адукацыі ў Нацыянальны дзяржаўны гуманітарны ліцэй імя Якуба Коласа Міністэрства адукацыі, захаваўшы за ім будынак у г. Мінску па вуліцы Кірава, 21.

Лічыць з 1 верасня 1998 г. навучэнцаў Беларускага гуманітарнага ліцэя пры Беларускім гуманітарным адукацыйна-культурным цэнтры Міністэрства адукацыі навучэнцамі Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа Міністэрства адукацыі.

2. Устанавіць, што:

2.1. асноўнымі задачамі Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа Міністэрства адукацыі з'яўляюцца:

дзяржаўная падтрымка ў навучанні навучэнцаў старэйшых класаў, якія праяўляюць схільнасці да вывучэння грамадска-гуманітарных прадметаў;

фарміраванне ў навучэнцаў грамадзянскасці, далучэнне іх да нацыянальна-культурных традыцый, творчай і навукова-даследчай дзейнасці;

правядзенне эксперыментальнай работы па апрабацыі стандартаў зместу агульнай сярэдняй адукацыі, новых тэхналогій навучання, вучэбна-метадычных комплексаў, якія забяспечваюць няспыннасць у атрыманні сярэдняй і вышэйшай адукацыі;

2.2. Нацыянальны дзяржаўны гуманітарны ліцэй імя Якуба Коласа Міністэрства адукацыі функцыяніруе ў саставе 8—11 класаў з колькасцю навучэнцаў да 400 чалавек;

2.3. прыём у Нацыянальны дзяржаўны гуманітарны ліцэй імя Якуба Коласа Міністэрства адукацыі ажыццяўляецца на конкурснай аснове з ліку вучняў, якія праявілі здольнасці і цікавасць да вывучэння прадметаў грамадска-гуманітарнага цыкла;

2.4. дырэктар Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа Міністэрства адукацыі назначаецца на пасаду Міністэрствам адукацыі па ўзгадненню з Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь;

2.5. педагагічныя работнікі Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа Міністэрства адукацыі праходзяць атэстацыю адзін раз у тры гады;

2.6. службовыя аклады (тарыфныя стаўкі) дырэктара, намеснікаў дырэктара па вучэбнай, вучэбна-выхаваўчай, вучэбна-метадычнай і выхаваўчай рабоце, настаўнікаў і іншых катэгорый педагагічных работнікаў Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа Міністэрства адукацыі павышаюцца да 20 працэнтаў;

на прэміраванне педагагічных работнікаў Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа Міністэрства адукацыі і ўстанаўленне ім надбавак стымулюючага характару выдзяляюцца бюджэтныя асігнаванні ў памеры 30 працэнтаў планавага фонду заработнай платы гэтых работнікаў;

2.7. выпускнікі Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа Міністэрства адукацыі карыстаюцца правам пераважнага залічэння на адпаведныя спецыяльнасці вышэйшых навучальных устаноў сістэмы адукацыі Рэспублікі Беларусь.

3. Міністэрству адукацыі:

3.1. да 20 ліпеня 1998 г. прыняць меры па зацвярджэнню ва ўстаноўленым парадку структуры і штатнага раскладу Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа Міністэрства адукацыі;

3.2. да 1 жніўня 1998 г. зацвердзіць статут Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа Міністэрства адукацыі;

3.3. да 15 жніўня 1998 г. забяспечыць фарміраванне педагагічнага калектыву Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа Міністэрства адукацыі;

3.4. вызначыць парадак прыярытэтнага забеспячэння Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа Міністэрства адукацыі вучэбна-метадычнай, навукова-папулярнай, даведачнай літаратурай і іншымі сродкамі навучання.

4. Міністэрству працы разам з Міністэрствам фінансаў па прадстаўленню Міністэрства адукацыі ўнесці змяненні ва ўмовы аплаты працы работнікаў, указаных у пункце 2.6 гэтай пастановы.

5. Міністэрству адукацыі, Міністэрству эканомікі, Міністэрству фінансаў разгледзець пытанне аб будаўніцтве ў 1999 годзе інтэрната для іншагародніх навучэнцаў Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа Міністэрства адукацыі.

6. Лічыць страціўшай сілу пастанову Савета Міністраў Беларускай ССР ад 28 лістапада 1990 г. № 293 «Аб арганізацыі Беларускага гуманітарнага адукацыйна-культурнага цэнтра Міністэрства народнай адукацыі БССР».

**Прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь — С. ЛІНГ.**

10 ліпеня 1998 г., № 1095 г., Мінск

*Сардэчна віншуем дарагога татачку і дзядулю Браніслава Андрэевіча КУНКЕВІЧА з 70-годдзем. Жадаем, каб у тваім доме заўжды былі цяпло, святло і радасць. Будзь маладжавы і бадзёры доўгія гады.*

*Сем'і КУНКЕВІЧАЎ, СВІДРЫЦКІХ.*

## МІНСК КРЫТЫКУЕ ДЗЕЯННІ ЕС У АДНОСІНАХ ДА БЕЛАРУСІ

**Кіраўнік адміністрацыі прэзідэнта Беларусі Міхаіл Мясніковіч назваў «недарэчнай і недальнабачнай акцыяй» рашэнне Еўрапейскага Саюза аб нявыдачы з 10 ліпеня ўязных віз вышэйшым службовым асобам рэспублікі, уключаючы прэзідэнта Аляксандра Лукашэнку.**

У пятніцу прадстаўнікі ЕС перадалі ў МЗС Беларусі спіс кіраўнікоў краіны, якія могуць разлічваць на атрыманне ўязных віз у дзяржавы ЕС да таго часу, пакуль Мінск не ўрэгулюе пытанні, звязаныя з умовамі знаходжання ў Беларусі паслоў замежных дзяржаў.

Так Захад адрэагаваў на рашэнне беларускіх уладаў перасяліць кіраўнікоў дыпламатычных місій з дач на тэрыторыі прэзідэнцкай рэзідэнцыі «Драздаы» ў асабнякі і кватэры ў іншых раёнах Мінска. Дзяржавы ЕС таксама заклікалі краіны Усходняй Еўропы далучыцца да акцыі Еўрасаюза.

У інтэрв'ю «Інтэрфаксу» ў суботу ў Мінску М. Мясніковіч выказаў у гэтай сувязі неразуменне: «Абмежаванне кантактаў паміж краінамі на такім высокім узроўні не выгадна ні палітычна, ні эканамічна, у тым ліку Захаду», — адзначыў ён.

На думку кіраўніка адміністрацыі прэзідэнта, праблема «нарадзілася на пустым месцы». «На размешчаныя ў цэнтры Мінска будынкі замежных пасольстваў ніхто не прэтэндуе. З арэндуемых кватэр у прэстыжных раёнах горада супрацоўнікаў пасольстваў ніхто высяляць не збіраецца. Мець дачы ў лесе паслам ніхто не забараняў», — заявіў М. Мясніковіч.

Ён падкрэсліў, што кіраўнікам дыпламатычных місій «было прапанавана толькі перасяліцца з займаемых у «Драздах» арандаваных дач у любыя іншыя, не менш камфартабельныя, якія ім былі прапанаваны на выбар «у не менш прэстыжных урадавых комплексах «Сцяпянка» і «Крылова».

Ніякіх парушэнняў Венскай канвенцыі аб недатыкальнасці будынкаў і маёмасці замежных пасольстваў беларускі бок не дапускаў, — заявіў кіраўнік адміністрацыі прэзідэнта. У гэтай сувязі ён назваў санкцыі ЕС у адносінах да Беларусі неабгрунтаванымі.

На думку М. Мясніковіча, скандал вакол «Драздоў» «арганізаваны палітычнымі коламі, не зацікаўленымі ў росце аўтарытэту прэзідэнта А. Лукашэнкі ў рэспубліцы і СНД».

Кіраўнік адміністрацыі лічыць, што «фактар Лукашэнкі, безумоўна, вельмі хвалюе тых, хто зацікаўлены ў яшчэ большым раз'яднанні народаў былога СССР і хто не жадае бачыць беларуска-расійскі саюз магутным, дружным і квітнеючым».

«Сэнс акцыі ЕС заключаецца ў стварэнні негатыўнага іміджу прэзідэнта Беларусі, які, паводле задумы арганізатараў павінен быў праслыць парушальнікам міжнародных пагадненняў», — лічыць М. Мясніковіч.

Ён паведаміў, што ўжо ёсць выпадкі, калі замежныя пасольствы ў Беларусі, спасылаючыся на «праблему «Драздоў» затрымлівалі працэдуру выдачы ўязных віз тым, хто выязджае на лячэнне за мяжу з раёнаў, што пацярпелі ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

«Няма сумненняў, што гэта зусім свядомыя акцыі, мэта якіх — скампраметаваць палітыку прэзідэнта Беларусі», — перакананы М. Мясніковіч.

**Інтэрфакс.**

## ДОМ «ПАД КЛЮЧ» МОЖНА НАБЫЦЬ НА РЫНКУ

У Мінску на базе былой вайсковай часці ва Уруччы пачаў сваю работу цэнтральны спецыялізаваны рынак будаўнічых матэрыялаў. Падрыхтоўка да гэтага моманту вялася больш года, а афіцыйнае ўрачыстае адкрыццё новага рынку запланавана на 24 ліпеня.

Як паведамілі карэспандэнту «Звязды» ў яго адміністрацыі, стварылася гэтая спецыялізаваная гандлёвая кропка найперш з разлікам на простых людзей-прыватнікаў, а таксама на будаўнічыя арганізацыі краіны.

Пагадзіцеся, зручна, калі ўсё, што патрэбна для рамонту або будаўніцтва — ад цвіка да камплекта сантэхнікі — знаходзіцца ў адным месцы.

На сённяшні момант арандатарамі на рынку ўжо сталі больш як 70 будаўнічых фірмаў, пераважна айчынных, але ёсць і сумесныя прадпрыемствы, якія прапануюць спажыўцам шырокі выбар электратэхнічных, сантэхнічных, абліцовачных і іншых матэрыялаў і тавараў. Уваход на рынак свабодны.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

ЗВЯЗДА
14 ліпеня 1998 г. 3

# ПРЭЗІДЭНТ НА МЕСЦЫ ПРАВЕРЫЦЬ, ЯК ВЫКОНВАЕЦЦА ЧАРНОБЫЛЬСКАЯ ПРАГРАМА

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

Вялікае месца ў чарнобыльскай праграме займаюць меры па стварэнню належных умоў пражывання ў забруджаных населеных пунктах. Сюды, у прыватнасці, уваходзяць капітальнае будаўніцтва ў пацярпелых раёнах, у тым ліку ўзвядзенне аб'ектаў сацкультбыту, газіфікацыя гэтых населеных пунктаў і правядзенне водаправодаў. Дарэчы, як падкрэсліў Генадзь Анцыпаў, цяпер у рэспубліцы распрацоўваецца спецыяльная праграма па забеспячэнню жыхароў краіны пітной вадой. У рамках жа чарнобыльскіх мерапрыемстваў гэты напрамак пачаў рэалізоўвацца значна раней і тут ужо ёсць пэўны вопыт. Прычым, у забруджаных раёнах пасьпяхова вырашаюцца праблемы, звязаныя з якасцю вады: у многіх райцэнтрах пабудаваны ўжо ці ўзводзяцца станцыі па яе ачыстцы ад жалеза.

Яшчэ адным значным блокам чарнобыльскай праграмы Генадзь Анцыпаў назваў правядзенне мэтавых мерапрыемстваў па ажыццяўленню мераў радыяцыйнай бяспекі. Да іх, у першую чаргу, адносяцца ахоўныя мерапрыемствы ў аграпрамысловым комплексе: унясенне павышаных дозаў фосфарных і калійных угнаенняў, вапнаванне глебаў, стварэнне чыстых сенакосаў і пашы. Усё гэта робіцца для таго, каб на нашы сталы траплялі прадукты харчавання з мінімальна магчымым утрыманнем радыенуклідаў. Прычым, на кантроль за якасцю прадуктаў, якія, па сутнасці, з'яўляецца апошнім ахоўным бар'ерам, таксама расходуецца немалая частка сродкаў. Паводле слоў Генадзя Анцыпава, у апошнія гады ў Беларусі не зафіксавана ні аднаго выпадку, каб у сістэмах грамадскага харчавання і дзяржаўнага гандлю былі знойдзены прадукты харчавання, у якіх утрыманне радыенуклідаў перавышала б устаноўленыя ў рэспубліцы гранічна дапушчальныя ўзроўні. І гэта пры тым, што ўжо неаднаразова гэтыя паказчыкі пераглядаліся і рабіліся больш жорсткімі.

Акрамя таго, у мэтавыя мерапрыемствы ўваходзяць навуковае забеспячэнне чарнобыльскай праграмы па цэламу спектру навуковых даследаванняў, правядзенне дэзактывацыі, перш за ўсё на сацыяльна значных і дзіцячых аб'ектах, комплекс работ па ўтрыманню зямель адчужэння і адселеных тэрыторый. Важнае месца ў вырашэнні многіх задач адводзіцца Палескаму дзяржаўнаму радыяцыйна-экалагічнаму запаведніку, які, дарэчы, 17 ліпеня адзначыць свой 10-гадовы юбілей. Ён з'яўляецца своеасаблівым палігонам для правядзення навуковых даследаванняў не толькі многімі рэспубліканскімі арганізацыямі, але і замежнымі вучонымі. На гэтым унікальным аб'екце, размешчаным у 30-кіламетровай зоне, у жніўні 1996 года пабываў Аляксандр Лукашэнка, і яго цяперашняя паездка ў чарнобыльскія рэгіёны пачнецца якраз з наведвання запаведніка.

Як адзначыў Генадзь Анцыпаў, пасля папярэдняй сустрэчы кіраўніка дзяржавы з кіраўніцтвам і супрацоўнікамі Палескага дзяржаўнага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка тут удалося вырашыць многія пытанні: абнавіць яго тэхнічную базу, узмацніць сацыяльную абарону людзей, якія працуюць у надзвычай складаных умовах, стварыць моцную проціпажарную службу. Але самае галоўнае, на гэтым аб'екце магутны імпульс атрымала развіццё новых напрамкаў работы, звязаных, у першую чаргу, з адпрацоўкай тэхналогій рэабілітацыі забруджаных тэрыторый, што таксама з'яўляецца адным з даручэнняў, дадзеных кіраўніком дзяржавы ў 1996 годзе.

У якасці прыкладу Генадзь Анцыпаў прывёў распрацаваны механізм вядзення лесанарыхтоўкі і лесаперапрацоўкі на тэрыторыях са шчыльнасцю 15—40 кюры на адзін квадратны кіламетр. Гэта драўніна цалкам можа выкарыстоўвацца.

**Эдуард ПІВАВАР, БЕЛТА.**



*ХVІ ЧЭМПІЯНАТ СВЕТУ ПА ФУТБОЛУ*

# У ФІНАЛЕ ФРАНЦУЗЫ «ПУСЦІЛІ ПЕЎНЯ» ПАД ЗБОРНУЮ БРАЗІЛІІ. БРАЗІЛЬСКІЯ «ЗОРКІ» ГАРЭЛІ СІНІМ ПОЛЫМЕМ

**Ну вось і ўсё, паважаныя сябры! У мінулую нядзелю матчам Бразілія — Францыя завяршыўся чарговы сусветны футбольны фэст. Цэлы месяц мільярды балельшчыкаў усяго свету былі сведкамі незабыўнага спектакля, імя якому — Футбол.**

...Калі б хто-небудзь на пачатку чэмпіянату сказаў, што ў фінале будзе гуляць зборная Бразіліі, — ніякіх пытанняў з гэтай нагоды не ўзнікла б. Калі б вы заявілі, што фінальную сустрэчу бразільцы прайграюць французам з лікам 0:3, то ў лепшым выпадку пакруцілі б пальцам ля скроні. Перамагчы каманду «зорак»?! З буйным лікам?! Бязглуздзіца! Сёння тыя скептыкі толькі разводзяць рукамі: адбылося тое, што адбылося. Французская каманда, перамогшы бразільцаў, упершыню ў сваёй гісторыі стала чэмпіёнам свету. Спецыялістам яшчэ будзе час дэталёва прааналізаваць, як такое магло здарыцца, аднак ужо сёння можна, напэўна, сказаць, што вельмі і вельмі расчаравалі ў фінале самі бразільцы. Складвалася ўражанне, што на поле выйшла каманда, якая ўжо зараней палічыла сябе чэмпіёнам. Ні Раналда, ні Бебета, ні Раберта Карлас (хоць апошні больш-менш і стараўся нешта стварыць) не паказалі той гульні, якой ад іх чакалі. Французскія ж футбалісты, наадварот, быццам на крылах лёталі па полі, і іх знакамітая сярэдняя лінія літаральна разрывала бразільцаў на кавалкі. Французы былі Калектывам, і гэта яшчэ раз пацвердзіў той факт, што абаронца Ларан Блан, які з-за чырвонай карткі прапускаў фінальную сустрэчу, быў часткай Каманды, і сябры паабяцалі прысвяціць перамогу яму. Хіба гэта не паказчык? Пры ўсім тым, што ў фінале проста цудоўна разыграўся паўабаронца французаў Зідан, які ў першым тайме і забіў два мячы галавой, добра гулялі Юры Джаркаеф і Цюрам. Бразільцы прайгралі матч ужо ў першым тайме і другі яны проста дагульвалі, таму трэці гол Пеціта ўжо нічога не вырашаў. Паход бразільцаў за пятым чэмпіёнскім тытулам поўнасцю праваліўся.

...Пасля фінальнай сустрэчы прэзідэнт Францыі Жак Шырак не хаваў сваіх эмоцый, размахваючы шалікам «фаната», французскія футбалісты плакалі ад шчасця і цалавалі жывую нацыянальную сімволіку — звычайнага пеўня, які аднекуль з'явіўся на полі. А Францыя ў тую ноч не спала, адзначаючы трыумф сваёй каманды. Заслужаны трыумф. Французы ж яшчэ раз даказалі ўсяму свету, што можа зрабіць каманда-«зорка» ў адрозненне ад некаторых «зорак» у камандзе. Бывай, Францыя! Да сустрэчы ў 2002 годзе на футбольных палях Японіі і Паўднёвай Карэі, дзе і пройдзе новы чэмпіянат свету.

**P.S.** У матчы за 3-е месца зборная Харватыі перамагла галандцаў — 2:1.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

*5 ХВІЛІН НА ІНТЭРВ'Ю З ЭКСПЕРТАМ*

**Аляксандр ГРЫГАРАЎ:**

# «САМАЙ ВЯЛІКАЙ СЕНСАЦЫЯЙ ЧЭМПІЯНАТУ ЛІЧУ ПРОЙГРЫШ НЕМЦАЎ ХАРВАТАМ...»

***Матчы чэмпіянату яшчэ доўга будуць абмяркоўвацца, камандам — «ад кожнай па заслугах» — не раз перамыюць косці і прааналізуюць гульню асобных футбалістаў. Сёння сваімі ўражаннямі мы папрасілі падзяліцца намесніка міністра па спорту і турызму Беларусі Аляксандра ГРЫГАРАВА.***

**— Аляксандр Уладзіміравіч, ваша ацэнка ў плане сенсацый на гэтым першынстве.**

— Іх было вельмі багата. На першае месца я паставіў бы пройгрыш немцаў (0:3) у матчы з харватамі. На другое месца вылучаю бронзавыя медалі тых жа харватаў і на трэцяе — бязвольную, вялую гульню бразільцаў у фінале. Такое ўражанне, што яны збіраліся адной нагой перайграць французаў. А апошнія ўзялі і паказалі футбол, якога ніхто не чакаў.

**— Так, гледзячы на тое, з якімі цяжкасцямі зборная Францыі праходзіла чарговых сапернікаў (узяць тую ж гульню з парагвайцамі альбо італьянцамі), такога футбола ад іх на самай справе не чакалі...**

— І бразільцы праличыліся. У гэтай сустрэчы ўсё вырашаў дух калектывізму, якога ў бразільцаў проста не было і якія, на мой погляд, свой фінал прайгралі яшчэ да гульні. Асабіста для мяне гэта быў проста шок — я сам за бразільцаў хварэў.

**— Аляксандр Уладзіміравіч, калі крыху пафантазіраваць: ці былі б у беларускай зборнай нейкія шанцы на гэтым чэмпіянаце?**

— Ну, фантазіраваць не грэх. Хутчэй за ўсё, трэба думаць, ці ёсць у нашай каманды шанцы трапіць на наступны чэмпіянат свету. Адказваю, што калі нічога не будзе мяняцца ў самой сістэме футбольнай гаспадаркі, то аніякіх. Патрэбна моцнае першынство, неабходны моцныя клубы. А то атрымліваецца, што ў лепшых камандах свету іграки атрымліваюць сумы ў мільёнах долараў, у Расіі зарплата футбаліста вылічаецца тысячамі «зялёных», а ў нас — некалькімі мільёнамі «зайцоў». Вядомая справа, што футбалісты будуць з'язджаць і ніхто іх ніколі не стрымае, што будзе справядліва. Зрэшты, гісторыя не стаіць жа на месцы. Сёння чэмпіёнамі сталі французы, а заўтра — чым чорт не жартуе...

**Алесь СІВЫ.**

**На здымках**: *«Радасць перамогі». Французы з Кубкам свету; герой фінальнай сустрэчы Зінэдзін ЗІДАН забівае першы мяч у вароты бразільцаў.*



*КРЫМІНАЛ*

# У ГОМЕЛІ АРЫШТАВАНА НЕКАЛЬКІ ЧАЛАВЕК, ЯКІЯ МОГУЦЬ МЕЦЬ ДАЧЫНЕННЕ ДА ВЫКРАДАННЯ ДЗІЦЯЦІ Ў МАСКВЕ Ў САКАВІКУ ГЭТАГА ГОДА

**У нядзелю, 12 ліпеня, у 10 гадзін раніцы супрацоўнікі гомельскага ўпраўлення Камітэта па арганізаванай злачыннасці і карупцыі Міністэрства ўнутраных спраў і мясцовага АМОНа ў Гомелі на беразе ракі Сож затрымалі траіх чалавек — двух мужчын і жанчыну (усе нідзе не працуюць), якія махлярскім спосабам збіраліся прысвоіць 480 тысяч долараў ЗША. Гэтая тройка быццам бы валодала інфармацыяй аб выкрадзеным у сакавіку гэтага года ў Маскве трохмесячным дзіцяці.**

Тое трагічнае здарэнне, як вы памятаеце, шырока асвятлялася ў расійскім друку: маладая мама, пакінуўшы дзіця ў прагулачнай калясцы прама на вуліцы, літаральна на пяць хвілін зайшла ў бальніцу, каб падзякаваць урачам, якія прымалі ў яе роды. Вярнуўшыся, яна не знайшла свайго дзіцяці на месцы. Нягледзячы на ўсе намаганні маскоўскай міліцыі, напасці на след злачынцаў тады так і не ўдалося. Жанчына праз дзень пасля гэтага пакончыла з сабой, выкінуўшыся з акна шматпавярховага дома. І вось след гэтай справы працягнуўся аж да берагоў Сожа. Праўда, следства з аператыўнага пункту гледжання пакуль катэгарычна не бярэцца сцвярджаць дакладна, тая гэта справа, ці мелася на ўвазе іншае выкраданне, а таксама ў каго вымагаліся грошы. Невядома на сёння і тое, ці сапраўды арыштаваныя ў Гомелі людзі валодалі інфармацыяй аб выкрадзеным дзіцяці, ці яны проста скарысталі зручны момант і вырашылі проста згуляць на гэтай бядзе.

Вядзецца следства, якое дасць адказы на ўсе пытанні.

**Антон ЗАПОЛЬСКІ.**

*АФІЦЫЙНА*

# УЗАЕМАПРЫМАЛЬНАЕ ВЫРАШЭННЕ ПРАБЛЕМЫ «ДРАЗДОЎ» МОЖА БЫЦЬ ЗНОЙДЗЕНА ТОЛЬКІ НА АСНОВЕ РАЎНАПРАЎНАГА ДЫЯЛОГА

Апошнім часам сродкамі масавай інфармацыі шэрагу замежных краін працягвала штучна нагнятацца атмасфера вакол так званай праблемы «Драздоў».

Як вядома, імкнучыся зняць магчымыя нязручнасці, звязаныя з пераносам рэзідэнцый пасольстваў з комплексу «Драздыь», беларускі бок ужо неаднаразова ішоў на ўступкі заходнім дыпламатам у пытанні змянення тэрмінаў пачатку рамонту і вывазу маёмасці з памяшканняў, у якіх павінен праводзіцца рамонт. Рэспубліка Беларусь заўсёды імкнулася, з улікам рэальных магчымасцяў, стварыць спрыяльныя ўмовы для размяшчэння і дзейнасці замежнага дыпламатычнага корпуса ў Мінску. І пры прыняцці рашэння аб правядзенні рамонтных работ у комплексе «Драздыь» пасольствам прапаноўваліся на выбар варыянты больш камфартабельнага размяшчэння іх рэзідэнцый у найбольш зручных і прэстыжных раёнах горада Мінска.

У адказ на гэта 10 ліпеня часовыя паверaныя ў справах краін Еўрапейскага саюза (Германіі, Францыі, Вялікабрытаніі, Грэцыі і Італіі) праінфармавалі беларускі бок аб рашэнні Еўрасаюза, згодна з якім практычна ўсе дзяржаўныя служачыя нашай краіны пазбаўляюцца права на атрыманне ўязных віз у краіны ЕС.

Як гаворыцца ў заяве Міністэрства замежных спраў нашай краіны, прынятай у сувязі з гэтым, аб'яўленне гэтага рашэння суправаджалася пагрозамі аб магчымасці прыняцця яшчэ больш жорсткіх мераў. Размова ідзе, такім чынам, аб выкарыстанні адносна прыватнай праблемы перамены рэзідэнцый паслоў як прычыны для беспрэцэдэнтна шырокамаштабнага палітычнага націску на суверэнную Беларусь. Вышэйпамянёны дэмарш у адрас Беларусі суправаджаўся спасылкамі на Венскую канвенцыю.

У гэтай сувязі Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь нагадала, што ў адпаведнасці з Венскай канвенцыяй замежныя дыпламаты маюць не толькі імунітэты і прывілеі, але і абавязаны паважаць рашэнні ўрада краіны знаходжання. Рэспубліка Беларусь і ў далейшым мае намер кіравацца сваімі законамі і нарматыўнымі актамі і ні ў якай форме не прымае ўказанняў у форме дыктату і ультыматуму. У той жа час МЗС заявіла, што ўзаемапрымальнае рашэнне гэтай праблемы можа быць знойдзена толькі на аснове раўнапраўнага дыялога і безумоўнай павагі суверэннага права Рэспублікі Беларусь прымаць рашэнні ў адпаведнасці са сваім нацыянальным заканадаўствам і дзяржаўнымі інтарэсамі.

**БЕЛТА.**

# ГРУБЫЯ ПАРУШЭННІ НА БРЭСЦКІМ «ЦВЕТАТРОНЕ»

Розніца ў аплаце працы кіраўніцтва Брэсцкага завода «Цветатрон» і яго радавых работнікаў складае ў сярэднім 10 мільёнаў рублёў.

Завод, праца якога выклікае пастаянныя папрокі і знаходзіцца пад кантролем абласных уладаў, гэтым разам аказаўся ў цэнтры ўвагі супрацоўнікаў Камітэта дзяржаўнага кантролю.

Так, па выніках праверкі да прадпрыемства прыменены штрафныя санкцыі і прад'яўлены грашовыя налічэнні на намесніка дырэктара і галоўнага бухгалтара.

Як аказалася, завод груба парушаў правілы захоўвання і выкарыстання чорных і каляровых металаў. Акрамя таго, правяраючых уразіў вялікі разрыў паміж аплатай працы рабочых і некаторых кіраўнікоў.

Так, сярэднямесячная зарплата былога дырэктара прадпрыемства — цяперашняга намесніка новага кіраўніка склала 11,9 мільёна рублёў, у той час як сярэдняя зарплата па заводу складае 1,74 мільёна рублёў.

Сёння «Цветатрон» з'яўляецца самым адсталым падраздзяленнем НВА «Інтэграл», працуе без прыбытку і мае пастаянныя праблемы з выплатай заработнай платы сваім работнікам.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ, БелаПАН.**

# ВЫПАДЫ Ў АДРАС АЛЯКСАНДРА ЛУКАШЭНКІ Ў КРАН-МАНТАНЕ НЕ САДЗЕЙНІЧАЮЦЬ НАЛАДЖВАННЮ ДЫЯЛОГА

«Прэзідэнт міжнароднага эканамічнага форуму «Кран-Мантана» Жан-Поль Картэрон выказаў у гутарцы з журналістамі шкадаванне ў сувязі з некаторай напружанасцю, што ўзнікла ў час дэбатаў з удзелам прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі, але адмовіўся прызнаць дапушчаную бестактоўнасць у адрас беларускага лідэра і адказнасць за яе арганізатараў дыскусіі». Аб гэтым паведамляе швейцарская газета «Тан».

Разам з тым яна сцвярджае, што гэты пункт гледжання падзяляюць не ўсе. Многія швейцарскія аглядальнікі выказваюць думку, што выпады, зробленыя ў адрас кіраўніка беларускай дзяржавы, зусім не садзейнічаюць наладжванню дыялога, у тым ліку і вяртанню паслоў шэрагу заходніх дзяржаў, якія пакінулі Мінск.

Як піша газета «Тан», Аляксандра Лукашэнку, а ён прыбыў у Кран-Мантану па запрашэнню арганізатараў форуму, каб выступіць з дакладам аб бяспецы ў Еўропе, у самы апошні момант папрасілі істотна скараціць выступленне. Акрамя таго, вядучы дыскусіі, журналіст тэлекампаніі «Франс-3» Крысціян Маляр, рэзка перапыніў кіраўніка беларускай дзяржавы, прапанаваўшы сканцэнтраваць увагу на праблеме ад'езду паслоў заходніх краін з Мінска. Дэбаты з самага пачатку перайшлі на павышаны тон. Пытанні, зададзеныя з залы, часам нагадвалі палітычныя дэкларацыі з асабістымі выпадамі ў адрас прэзідэнта. Ён пакінуў залу пасяджэння, не дачакаўшыся завяршэння заключнага выступлення Картэрона.

Саветнік Савета Федэрацыі Федэральнага Сходу РФ Сяргей Глазьеў, які прысутнічаў у зале, папрасіў у час пасяджэння слова і выказаў шкадаванне ў сувязі з такой манерай вядзення дыскусіі. «Неаб'ектыўныя адносіны да Беларусі выклікаюць у мяне глыбокае абурэнне, — сказаў ён. — Ясна, што за гэтым стаіць спланаваная палітычная акцыя, у якой удзельнічае абмежаваная колькасць людзей. Але менавіта яны фарміруюць грамадскую думку».

**БЕЛТА.**

ЗВАНОК У РЭДАКЦЫЮ

## «Заплаці, дзед, на дарогі — атрымаеш даведку на брыкет...»

**Як ні дзіўна, але, на жаль, некаторыя кіраўнікі мясцовай улады не чытаюць не толькі рэспубліканскіх газет, у тым ліку і «Звязду», але і законаў, якія публікуюцца ў іх. А калі з урадавымі актамі і знаёмяцца, як кажуць, «па дыяганалі», то ўспрымаюць іх як нейкія састарэлыя інструкцыі і рэкамендацыі, выконваць якія зусім не абавязкова.**

Такую выснову пацвярджае і тэлефонны званок жыхара в. Крупічы Бортнікаўскага сельсавета Бабруйскага раёна Уладзіміра Канстанцінавіча Шырокага.

Што прымусіла адзінокага, прытым хворага 68-гадовага чалавека, здымаць тэлефонную трубку і набіраць нумар нашай рэдакцыі?

Як высветлілася, прычына даволі простая, ардынарная, але для нашага чытача яна вельмі сур'ёзная, нават жыццёва важная.

— Я, — даносіўся з трубкі глухаваты і пакрыўджаны голас Уладзіміра Канстанцінавіча, — адпрацаваў на трактары ў мясцовым калгасе імя Дзяржынскага 35 гадоў. За такі працяглы час нялёгкай работы страціў здароўе, стаў інвалідам II групы.

З далейшай размовы высветлілася, што У. Широкі кожны год у гарпаліве атрымліваў торфабрыкет, за які плаціў 50 працэнтаў яго кошту. Сёлета ж яго ў традыцыйны спіс не ўключылі, спаслаўшыся на тое, што адпаведны нарад не паступіў з Бортнікаўскага сельсавета. А там інваліду заявілі без лішніх слоў: заплаці, дзед, леташні доўг (150 тысяч) і сёлетні (250 тысяч) на добраўпарадкаванне дарог. І тады будзе выдадзена патрэбная даведка.

Да глыбіні душы пакрыўджаны такой заявай, інвалід, вядома, не пагадзіўся. Тады яго не перарэгістравалі на льготнае атрыманне газавага балона. І ён вымушаны быў у газавіка купляць яго за поўны кошт.

На справядлівыя прэтэнзіі пажылога і хворага чалавека старшыня сельсавета Леанід Андрэевіч Баркоўскі заявіў: не, быць таго не можа.

Аднак на наш званок у Бортнікаўскі сельсавет адказалі адназначна: «Не мы прыдумалі такія законы, мы іх проста абавязаны выконваць. І мы іх выконваем».

Але ж, як спаслаўся Уладзімір Канстанцінавіч, у час «прамой лініі» міністр сацыяльнай абароны рэспублікі Вольга Іосіфаўна Даргель прама заявіла, што ад уплаты збору (на тое ж добраўпарадкаванне дарог, — **І. Б.**) вызваляюцца інваліды Вялікай Айчыннай вайны, а таксама інваліды І і ІІ груп агульнага захворвання. Дарэчы, да такой катэгорыі менавіта і належыць Уладзімір Канстанцінавіч Шырокі.

Цікава, што на гэта пытанне адкажа Бабруйскі райвыканкам?

**Іван БРАЛКА.**

ПЫТАЛЬНІК

## Пятнаццацідзённых водпускаў болей не існуе

***Тры гады працую прыбіральшчыцай у Доме культуры. Летась мела водпуск 15 дзён. Адкажыце, калі ласка, ці праўда, што сёлета мой водпуск павінен павялічыцца? Або ўсё залежыць толькі ад калектыўнага дагавора?***

***І яшчэ пытанне. Калі ёсць двое дзяцей (8 і 11 гадоў), то на колькі дзён павінен быць павялічаны адпачынак?***

**А. ЗІНЬКО, г. Ганцавічы.**

Як патлумачылі карэспандэнту «Звязды» ў юрыдычным упраўленні Міністэрства працы, калектыўны дагавор ні ў якім разе не можа супярэчыць заканадаўству. Як вядома, пасля прыняцця адпаведнай папраўкі ў Кодэксе законаў аб працы, з гэтага года працягласць мінімальнага водпуску ў краіне была павялічана з 15 да 18 дзён. Адпаведна, нават калі ў калектыўным дагаворы нейкім чынам захавалася ранейшая 15-дзённая норма, ваш водпуск усё роўна павінен складаць не менш як 18 працоўных дзён.

Цяпер наконт другога пытання. Паводле заканаўства, як маці дваіх дзяцей ва ўзросце да 18 гадоў, вы таксама маеце права на 3 дні водпуску, якія дадаюцца да ўсё тых жа 18 дзён мінімальнага водпуску.

**Сяргей ГРЫБ.**

# Арыенціры пенсійнай сістэмы

***Нацыянальныя пенсійныя сістэмы многіх краін перажываюць перыяд асэнсавання і рэканструкцыі, накіраванай на ўдасканаленне ўскладзеных на іх функцый. Перажывае такі перыяд і пенсійная сістэма Беларусі, рэформа якой прыцягвае да сябе ўвагу ўсяго грамадства.***

ПАЧЫНАЮЧЫ з 1991 года крыніцай фінансавання расходаў на выплату працоўных пенсій з'яўляюцца страхавыя ўзносы, акумуліруемыя ў аўтаномным пазабюджэтным фондзе. Гэта ў вядомай ступені спрыяла змякчэнню наступстваў рыначнай трансфармацыі эканомікі, паколькі ў прынцыпе выключалася выкарыстанне страхавых сродкаў на якія-небудзь іншыя мэты, акрамя як на патрэбы застрахаваных ці іх сем'яў. Тады ж быў уведзены салідарны парадак уплаты страхавых узносаў работадаўцамі (у асноўным 35 працэнтаў фонду аплаты працы) і наёмнымі работнікамі (1 працэнт індывідуальнай заработнай платы). Менавіта з таго часу ў Беларусі, як і ў іншых дзяржавах былога СССР, быў пакладзены пачатак развіццю страхавых прынцыпаў у пенсійным забеспячэнні.

Сёння ўзносы па дзяржаўнаму сацыяльнаму страхаванню ўплачваюцца ў Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва, што ўваходзіць у структуру Міністэрства сацыяльнай абароны, які пасля прыняцця Закона Рэспублікі Беларусь «Аб пенсійным забеспячэнні» (уведзены ў дзеянне з 1 студзеня 1993 года) аб'яднаў Пенсійны фонд і Фонд сацыяльнага страхавання. Да 80 працэнтаў акумуліруемых у гэтым фондзе сродкаў ідзе на пенсійнае забеспячэнне, астатнія — на выплаты, звязаныя з іншымі страхавымі выпадкамі.

Наступным важным крокам для стварэння прававой асновы сістэмы дзяржаўнага сацыяльнага страхавання было прыняцце ў студзені 1995 года Закона Рэспублікі Беларусь «Аб асновах дзяржаўнага сацыяльнага страхавання», у якім замацаваны асноўныя прынцыпы дзяржаўнага сацыяльнага страхавання (артыкул 2), абазначана кола асоб, якія падлягаюць абавязковаму дзяржаўнаму сацыяльнаму страхаванню (наёмныя работнікі) і добраахвотна ўплачваюць страхавыя ўзносы (прадпрымальнікі, члены сялянскіх (фермерскіх) гаспадарак, творчыя работнікі — артыкул 7). Што вельмі важна, у Законе (артыкул 9) вызначаны аб'ектыўна абумоўленыя рызыкі, пры наступленні якіх застрахаваныя грамадзяне маюць права на страхавыя выплаты.

Нягледзячы на асобныя недахопы, названы закон разам з Законам «Аб пенсійным забеспячэнні», іншымі актамі заканадаўства, якія рэгулююць умовы, памеры выплат і парадак арганізацыі дзяржаўнага сацыяльнага страхавання па канкрэтных відах страхавых выпадкаў, з'яўляецца базай для пабудовы сістэмы сацыяльнага страхавання, арыентаванай на сусветны вопыт.

Нягледзячы на пазітыўныя пераўтварэнні ў галіне сацыяльнага забеспячэння, у пенсійнай сістэме, заснаванай на прынцыпе салідарнасці ва ўсіх яе разнавіднасцях і фінансуемай за кошт бягучых паступленняў, дзеянне страхавых прынцыпаў пакуль істотна абмежаванае. Па сутнасці яна не з'яўляецца ў поўнай меры страхавой. У значнай ступені гэта тлумачыцца грузам праблем, атрыманых у спадчыну яшчэ ад старой пенсійнай сістэмы, арыентаванай на ідэю ўсеагульнага забеспячэння, якія пагоршыліся цяперашнім станам эканомікі.

***Недахопамі пенсійнай сістэмы з'яўляюцца:***

***1) высокі тарыф страхавых узносаў і недастатковасць сродкаў для фінансавання выплаты пенсій прыстойнага ўзроўню, якая пры гэтым назіраецца;***

***2) неадэкватнасць памеру пенсій аб'ёму ўдзелу застрахаванага ў фінансаванні пенсійнай сістэмы, што выяўляецца толькі ў частковай дыферэнцыяцыі памераў пенсій у залежнасці ад працоўнага ўкладу пенсіянера ў мінулым.***

***3) высокая «нестрахавая» нагрузка на пенсійную сістэму;***

***4) нізкі ўзровень пенсій (з пункту погляду іх пакупной здольнасці), які слаба задавальняе сацыяльныя патрэбы пажылых людзей.***

Суадносіны сярэдняй пенсіі і пражытачнага мінімуму (а ён у рэспубліцы ўстаноўлены на ўзроўні 60 працэнтаў сярэднедушавога мінімальнага спажывецкага бюджэту сям'і з чатырох чалавек) у 1997 годзе склалі 79,2 працэнта, у тым ліку ў снежні — 87,8 працэнта. Сітуацыя кардынальна не змянілася і ў гэтым годзе. Пенсіі ў памеры ніжэй за мінімальны спажывецкі бюджэт атрымліваюць больш за 90 працэнтаў пенсіянераў. У той жа час трэба адзначыць паступовае павышэнне суадносінаў узроўню сярэдняй пенсіі і пражытачнага мінімуму. За чатыры месяцы сёлетняга года яны склалі 93,5 працэнта (1416,0 тыс. рублёў да 1514,5 тыс. рублёў). У 1994 годзе гэты паказчык складаў толькі 59,1 працэнта.

Крыніца ўказаных праблем — не толькі і нават не столькі дзеючае пенсійнае заканадаўства, хоць, трэба прызнаць, і яно з пункту погляду рацыяналізацыі і аптымізацыі закладзеных у яго нормаў з'яўляецца недасканалым. У большай ступені яны абумоўлены складанасцямі эканамічнага развіцця рэспублікі.

Вядома, што пенсійныя сістэмы, пабудаваныя на прынцыпе сацыяльнай салідарнасці, надзвычай залежныя ад змянення такіх паказчыкаў, што ўплываюць на аб'ём збіраемых сродкаў, як даходы эканамічна актыўнага насельніцтва, колькасць занятых у эканоміцы, колькасць плацельшчыкаў страхавых узносаў, тарыф страхавых узносаў.

Так, узровень заработнай платы работнікаў (2262,4 тыс. рублёў), што склаўся ў 1997 годзе, быў роўны толькі 123,3 працэнта ад сярэднеўзважанай месячнай велічыні мінімальнага спажывецкага бюджэту на аднаго члена сям'і з чатырох чалавек (1835,2 тыс. рублёў). Г. зн., сярэдняя заработная плата ў яе фактычным выражэнні (пасля падатковых вылічэнняў) забяспечвае толькі мінімальныя патрэбнасці самога работніка, што не можа адпавядаць яе ўзнаўленчай функцыі.

Нягледзячы на нізкі ўзровень заработнай платы, нам удаецца захоўваць сфарміраваныя суадносіны сярэдняй пенсіі і сярэдняй заработнай платы ў рэспубліцы. У 1990 годзе іх паказчык складаў 39,8 працэнта, прыкладна на такім жа ўзроўні яны падтрымліваюцца і апошнія тры гады. Аднак гэта нас не можа супакойваць, паколькі амаль у 50 працэнтаў атрымальнікаў пенсіі ніжэй за пражытачны мінімум. Добра тое, што пенсіі вось ужо на працягу двух гадоў выплачваюцца своечасова. Тэхнічна ўстойлівасць суадносінаў сярэдняй пенсіі і сярэдняй заработнай платы забяспечваецца дзеяннем механізма карэкціроўкі мінулых заработкаў пенсіянераў (з выкарыстаннем індывідуальнага каэфіцыента заработку) і пераразліку пенсій у залежнасці ад росту даходаў асоб, якія ўплачваюць узносы сёння.

Пераразлік пенсій па розных падставах, прадугледжаных заканадаўчымі і нарматыўнымі актамі, у 1997 годзе рабіўся восем разоў, у 1998 г. — тры разы (апошні раз з 1 ліпеня).

Сур'ёзным эканамічным фактарам, які адбіваецца на фінансавых магчымасцях Фонду, з'яўляецца скарачэнне колькасці занятых у эканоміцы. У сувязі з працэсамі рэструктурызацыі эканомікі за перыяд з 1990 года ў рэспубліцы колькасць занятых знізілася на 15,2 працэнта (пры росце колькасці пенсіянераў за гэты перыяд на 12,4 працэнта). Акрамя таго, прысутнічае скрытае беспрацоўе. Яго ўзровень у 1997 годзе склаў у галінах матэрыяльнай вытворчасці 3,6 працэнта, а ў прамысловасці — 8,4 працэнта. Узровень «афіцыйнага» беспрацоўя за апошнія дванаццаць месяцаў знізіўся з 3,7 да 2,5 працэнта.

Прынцыпова важным і спрэчным тут з'яўляецца пытанне, што датычыцца некаторых катэгорый занятых, для якіх сацыяльнае (пенсійнае) страхаванне сёння з'яўляецца прадметам добраахвотнага выбару. Да іх належаць прадпрымальнікі, члены сялянскіх (фермерскіх) гаспадарак і іншыя. Абгрунтаванасць прадастаўлення ім права добраахвотнага пенсійнага страхавання выклікае сумненні. Бясспрэчна, вырашэнне праблем, звязаных з ахопліваннем сацыяльным страхаваннем самазанятых, залежыць ад многіх фактараў і, у першую чаргу, ад палітыкі даходаў насельніцтва, якая б стымулявала іх поўную легалізацыю, ад прывабнасці пенсійнай сістэмы, тарыфу страхавых узносаў. Сёння менавіта ў сувязі з несупараўнальнасцю страхавога тарыфу (15 працэнтаў даходу) з нізкімі пенсіямі большасць з іх думаюць пра будучыню самастойна, калі, канешне,думаюць: з больш чым 27 тыс. афіцыйна зарэгістраваных самазанятых уплачваць страхавыя ўзносы згадзіліся толькі 2,5 працэнта. Безумоўна, комплекснае вырашэнне гэтых пытанняў дапамагло б прыцягнуць у пенсійны фонд значныя сродкі, што ў сваю чаргу станоўча адбілася б на ўзроўні забяспечанасці цяперашняга пакалення пенсіянераў.

Трэцім эканамічным фактарам, што адбіваецца на ўзроўні даходнасці фонду, з'яўляецца змяненне структуры грашовых даходаў насельніцтва. Удзельная вага аплаты працы ў ёй знізілася з 1990 года амаль на чвэрць і склала ў 1997 годзе 55,5 працэнта (у 1994 годзе — 46,2 працэнта). Адначасова павысілася доля сродкаў, прадастаўляемых работнікам у выглядзе выплат сацыяльнага характару, на якія страхавыя ўзносы не налічваюцца.

Ёсць у нас праблемы і з запазычанасцю суб'ектаў гаспадарання па ўплаце страхавых узносаў. Ужо больш года яна трымаецца на ўзроўні 1,8—1,9 трлн. рублёў (пры месячным даходзе на выплату пенсій у лютым—чэрвені 3,9 трлн. руб.). Пры гэтым складваецца практыка шматгадовай адтэрміноўкі выплаты даўгоў суб'ектамі гаспадарання па ўплаце страхавых узносаў. Безумоўна, што ва ўмовах інфляцыі — гэта страты для фонду і саміх застрахаваных.

На праблемы, звязаныя з недастатковым фінансаваннем неабходных пенсійных расходаў, наслойваецца іншая — дэфармацыя ўзроставай структуры насельніцтва ў бок яго пастарэння. За перыяд з 1959 года насельніцтва старэйшае за працаздольны ўзрост (60 гадоў для мужчын і 55 гадоў для жанчын) павялічылася удвая (з 1090,3 да 2175,9 тыс. чал.). У той жа час насельніцтва ў працаздольным узросце павялічылася менш чым на трэць (з 4447,0 да 5749,2 тыс. чалавек), а колькасць дзяцей зменшылася на 8,2 працэнта (з 2518 да 2311 тыс. чалавек). Каэфіцыент залежнасці пенсіянераў (суадносіны іх колькасці да колькасці астатняй часткі насельніцтва) павялічыўся з 15,7 працэнта да 27 працэнтаў. Колькасць пажылых на 1000 чалавек працаздольнага ўзросту павялічылася з 245 да 378 чалавек, ці больш чым у паўтара раза.

Канешне, само па сабе старэнне насельніцтва, калі яно вядзе да падаўжэння актыўнага перыяду жыцця, не абавязкова выклікае неабходнасць павышэння расходаў на пенсіі. Аднак у спалучэнні са строга фіксаваным пенсійным узростам і выплатай пенсій без абмежаванняў у перыяд работы патрабуецца ўсё большых сродкаў для падтрымкі пажылых людзей. У адваротным выпадку ўзровень жыцця большасці пенсіянераў, перш за ўсё непрацуючых, застанецца на нізкім узроўні, што мы цяпер і назіраем у нашай рэспубліцы.

Каля паўстагоддзя ў нашым заканадаўстве дзейнічаюць нормы, якія дазваляюць даволі рана выходзіць на пенсію: мужчынам — па дасягненні 60, жанчынам — 55 гадоў. Акрамя таго, дзейнічаюць устаноўленыя яшчэ ў часы Саюза шматлікія льготы і прывілеі ў датэрміновым выхадзе на пенсію для асобных катэгорый работнікаў. На жаль, у 90-я гады да іх дададзены новыя, практычна нічым не абгрунтаваныя магчымасці выхаду на пенсію значна раней за дасягненне пенсійнага ўзросту. Такое становішча прывяло да таго, што штогод амаль чвэрці «новых» пенсіянераў пенсіі прызначаюцца на 5—10 гадоў раней. Гэта ў два разы больш, чым у 1990 годзе. Таму ў рэспубліцы фактычны ўзрост выхаду на пенсію па старасці на працягу шэрагу гадоў прыкметна ніжэй за агульнаўстаноўлены. У 1997 годзе ён склаў каля 58 гадоў 10 месяцаў для мужчын і 53 гады 11 месяцаў — для жанчын.

У выніку для значнай часткі дастаткова «маладых» пенсіянераў пенсія сёння ператварылася ў надбаўку да зарплаты, тым самым страціла сваё прызначэнне — кампенсаваць чалавеку, які страціў працаздольнасць, страчаны разам з ёю даход. Звыш 15 працэнтаў працягваюць працаваць. У той жа час у значнай часткі непрацаздольных пенсіянераў каэфіцыент замяшчэння мінулай заработнай платы складае толькі 15—30 працэнтаў. Іх пенсіі прыкметна ніжэй за мінімальны спажывецкі бюджэт.

Прызнаючы, што самым сур'ёзным чынам абмяжоўваюць фінансавую базу бюджэту пенсійнай сістэмы агульнаэканамічныя цяжкасці, нельга не адзначыць таксама, што гранічная вастрыня ў пенсійным забеспячэнні склалася ў выніку наслаення захаваных старых і новых неабгрунтаваных, нелагічных падыходаў і фінансава незабяспечаных рашэнняў у рамках самой пенсійнай сістэмы.

У мэтах вызначэння арыенціраў пры распрацоўцы прапаноў па прывядзенню пенсійнай сістэмы ў адпаведнасць з рэальнымі сацыяльна-эканамічнымі ўмовамі і было прынята рашэнне аб неабходнасці падрыхтоўкі Канцэпцыі рэформы сістэмы пенсійнага забеспячэння ў Рэспубліцы Беларусь. Яна адобрана Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь 17 красавіка 1997 года і падтрымана прэзідэнтам нашай рэспублікі.

Кожная краіна мае свой вопыт вырашэння праблем непрацаздольных. Таму пачатку работы над праектам канцэпцыі папярэднічала вывучэнне існуючых мадэляў пенсійных сістэм.

Было прызнана мэтазгодным працягваць фарміраванне ў рэспубліцы дзяржаўнай страхавой пенсійнай сістэмы, надаўшы ёй трохузроўневы характар, як гэта зроблена ці мяркуецца зрабіць у шэрагу краін свету.

Вядучая роля ў арганізацыі пенсійнай сістэмы адводзіцца дзяржаўнаму абавязковаму пенсійнаму страхаванню, дзе пенсіі будуць забяспечвацца бягучымі страхавым ўзносамі. На накапляльных прынцыпах будуць фарміравацца пакуль толькі дадатковыя сістэмы.

Прыняцце сёння рашэння аб пераводзе ўсёй пенсійнай сістэмы на накапляльныя прынцыпы ўяўляецца занадта рызыкоўным, паколькі даволі праблематычна адначасовае фінансаванне выплаты пенсій цяперашнім пенсіянерам і накапленне сродкаў на будучую пенсію.

У Рэспубліцы Беларусь даволі «мяккі» варыянт рэфарміравання пенсійнай сістэмы, без узрушэнняў і рызыкоўных эксперыментаў.

***У канцэпцыі вызначаны наступныя асноўныя мэты рэформы пенсійнай сістэмы ў нашай рэспубліцы. Гэта:***

***1) адаптацыя сістэмы пенсійнага забеспячэння да эканамічных умоў, якія змяняюцца, і забеспячэнне яе фінансавай стабільнасці і ўстойлівасці на аснове развіцця дзяржаўнага і недзяржаўнага пенсійнага страхавання і бюджэтнага фінансавання;***

***2) паслядоўнае ўмацаванне і развіццё ў пенсійнай сістэме прынцыпаў, пры дапамозе якіх выключаюцца якія-небудзь перавагі для асобных слаёў ці груп застрахаваных за кошт іншых;***

***3) рацыяналізацыя і аптымізацыя ўмоў і нормаў пенсійнага забеспячэння на падставе пераразмеркавання і паляпшэння выкарыстання наяўных сродкаў;***

***4) увядзенне механізмаў, якія стымулююць «зарабленне» пенсіі і забяспечваюць гарантыі яе атрымання;***

***5) захаванне правоў, набытых па дзеючай пенсійнай сістэме. У канчатковым выніку сама сістэма павінна стаць мабільнай і адэкватнай аб'ектыўным працэсам, якія адбываюцца ў грамадстве.***

Нягледзячы на тое, што сацыяльна-эканамічныя праблемы істотна абмяжоўваюць магчымасць даволі хуткіх пераўтварэнняў у пенсійнай сістэме, абавязковай умовай іх правядзення з'яўляецца не пасіўнае чаканне паляпшэння спраў у эканоміцы, а актыўнае паслядоўнае выкарыстанне вынікаў няхай і маруднага эканамічнага росту, што адбываецца ў рэспубліцы. Эфектыўнасць пенсійнай рэформы будзе павышацца паступова, у залежнасці ад рэалізацыі яе элементаў.

Для дасягнення мэтаў рэформы на адпаведных стадыях рэфарміравання будзе вырашаны шэраг няпростых задач.

**Леанід ДАВЫДЗЕНКА,
галоўны саветнік прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь.**

***(Заканчэнне будзе.)***

# ШЛЯХ ДА ПРЫЗНАННЯ ТАВАРАЎ ПРАЛЯГАЕ ПРАЗ КОНКУРС

**Рэспубліканскі агульнаграмадскі конкурс сярод вытворцаў і пастаўшчыкоў у нашу краіну тавараў бытавой хіміі і безалкагольных напояў аб'яўлены Беларускай экалагічнай партыяй і Беларускім таварыствам абароны спажыўцоў.**

Па выніках экспертызы плануецца скласці рэйтынгавыя табліцы прадстаўленых на конкурс тавараў, якія, як мяркуецца, дапамогуць спажыўцам зарыентавацца ў разнастайнасці прадукцыі беларускага рынку. Спецыяльныя ж дыпломы, якія атрымаюць пераможцы конкурсу (а іх будзе ўсяго 3-4 у кожнай намінацыі), паслужаць для гэтых тавараў добрай рэкламай. Магчыма, менавіта таму ў першую чаргу цікаўнасць да конкурсу праявілі гандлёвыя маркі з яшчэ «нераскручанымі» назвамі, такія як «Юнік», «Cido», «Primavera», «Фрост», «Джэй-пі», «Вечалле», «Вітэкс», «Аква Сан», «БелКас» і іншыя. Між іншым, кожны з вытворцаў упэўнены ў высокіх спажывецкіх якасцях сваёй прадукцыі, інакш бы не пагадзіўся ўдзельнічаць у незалежнай экспертызе, прычым за свае ж грошы. А вось газіраваныя напоі «Фанта», «Спрайт», «Кола», «Вейнянская крыніца», «Пікнік», «Трайпл», пральныя парашкі «Тайд», «Арыэль», «ОМО» ўдзелу ў конкурсе не прымаюць: ці то прадпрыемствы-вытворцы лічаць, што для іх прадукцыі рэкламы і без таго дастаткова, ці то проста баяцца прайграць сваім менш знакамітым сапернікам. Праўда, ёсць і яшчэ адна прычына, па якой буйныя беларускія вытворцы безалкагольных напояў адмовіліся ад удзелу ў конкурсе — гэта дэфіцыт у прамысловасці звычайнага цукру. У дадзены момант замест цукру многімі выкарыстоўваецца яго заменнік — сахарын, ад чаго, зразумела, смак напояў пагаршаецца.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

## БЕЛАРУСКІМІ РУБЛЯМІ МОЖНА БУДЗЕ РАЗЛІЧВАЦЦА Ў СІСТЭМЕ ПЛАСТЫКАВЫХ КАРТАК

Нацыянальны банк Беларусі будзе выконваць функцыі разліковага банка па правядзенню міжбанкаўскіх разлікаў па аперацыях з выкарыстаннем міжнародных пластыкавых картак у беларускіх рублях. Такое права яму дадзена рашэннем савета дырэктараў цэнтральнай фінансавай установы рэспублікі.

Як паведамілі БЕЛТА ва ўпраўленні інфармацыі галоўнай фінансавай установы краіны, яе савет дырэктараў дазволіў таксама ўстанаўліваць афіцыйную каціроўку спецыяльнага курсу Нацбанка па выніках дадатковай сесіі на Міжбанкаўскай валютнай біржы. Гэта, на думку спецыялістаў, стварае спрыяльныя ўмовы для знешнеэканамічнай дзейнасці беларускім суб'ектам гаспадарання, якія набываюць тут замежную валюту.

**БЕЛТА.**

# ВАШ ПАХ — ВАША ВІЗІТОЎКА

**Нарэшце засталіся ў мінулым гады, калі адзіным даступным для беларускіх жанчын парфумным сродкам былі дэзадаранты Брэсцкага завода бытавой хіміі, ды і тыя лічыліся дэфіцытам. Сёння гэтага тавару на паліцах нашых магазінаў удосталь: ад прадукцыі малавядомых фірмаў да самых славутых таварных знакаў. Нават вызначыцца з выбарам бывае даволі цяжка.**

Першае правіла, якое трэба ведаць усім, хто карыстаецца тымі ці іншымі парфумнымі сродкамі, наступнае: дэзадарант ці туалетная вада не прызначаныя для таго, каб імі заглушаць пах нямытага цела. Між іншым, пот сам па сабе не мае ніякага паху, ён утвараецца толькі пры судакрананні поту са скурай чалавека, на якой заўсёды прысутнічаюць бактэрыі. Таму, зразумела, што чым часцей вы мыецеся, тым лягчэй будзе справіцца з пахам поту вашаму дэзадаранту.

Ва ўсе дэзадаранты ўводзяцца бактэрыцыдныя рэчывы, якія зацягваюць працэс разлажэння поту скурнымі бактэрыямі, і эфектыўнасць «парфуму» залежыць ад таго, наколькі працяглым дзеяннем ён валодае. Розныя парфумныя фірмы выкарыстоўваюць розныя бактэрыцыдныя рэчывы. Адно з іх — трыклазан. Нейкі час таму папаўзлі чуткі, што трыклазан паводзіць сябе ў адносінах да скурнай флоры даволі агрэсіўна, таму, маўляў, ён не зусім бяспечны. Аднак спецыялісты на Захадзе правялі даследаванне, якое аднавіла добрую рэпутацыю гэтага рэчыва, і яно зноў пачало шырока выкарыстоўвацца. Адзін з апошніх модных напрамкаў у парфумернай вытворчасці — выпуск дэзадарантаў на аснове фарнезолу і фруктовых кіслот, якія лічацца даволі мяккімі нават для адчувальнай скуры, схільнай да раздражнення. Дарэчы, у дэзадарантах вытворчасці ЗАТ «Белбыткамплект», у якое ўваходзяць фірмы «Беліта» і «Вітэкс», добра вядомых нашым жанчынам, выкарыстоўваюцца менавіта гэтыя рэчывы.

А цяпер некалькі слоў аб антыперспірантах, шырока рэкламуемых нашым тэлебачаннем. У адрозненне ад іншых дэзадарантаў, якія не здольныя змяншаць колькасць поту, што выдзяляецца нашым целам, а толькі больш ці менш эфектыўна ўплываюць на ўзаемадзеянне поту са скурнымі бактэрыямі, антыперспіранты выдзяленне поту тармозяць. Вяжучыя рэчывы, якія ўваходзяць у іх састаў, закупорваюць потавыя залозы, у выніку чаго арганізм выдзяляе поту менш, чым звычайна. Асабліва актуальныя антыперспіранты ў спякотнае надвор'е, а вось увосень і зімою цалкам можна абысціся і звычайным дэзадарантам, каб не ўмешвацца лішні раз у працэс потавыдзялення.

Ёсць і яшчэ адзін сакрэт: па сваёй эфектыўнасці аэразольныя дэзадаранты прайграюць ролікавым і цвёрдым дэзадарантам.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

# «БЕЛТЭЛЕКАМ» НА АХОВЕ ВАШАГА СПАКОЮ

Напэўна, кожны з чытачоў трапляў у сітуацыю, калі яго бесперапынна турбаваў па тэлефоне чалавек, размаўляць з якім не было ну ніякай ахвоты. Выйсці да апошняга часу з яе былі толькі два: ці проста не падыходзіць да тэлефона, ці ўвогуле яго адключыць, што практычна адно і тое ж. Але цяпер з'явіўся і трэці варыянт: вы звяртаецеся да начальніка вашай электроннай АТС з заявай адвольнай формы, у якой выказваеце пажаданне не прымаць на ваш тэлефонны нумар уваходныя тэлефонныя званкі наступных абанентаў...

Дарэчы, гэта не адзіная новая паслуга, якую пачало аказваць рэспубліканскае аб'яднанне «Белтэлекам» абанентам электронна-тэлефонных станцый. Так, напрыклад, цяпер па заяўцы абанента могуць устанаўліваць індывідуальны код-пароль, без ведання якога немагчыма ажыццяўляць выклікі ў ахоўваемым напрамку. Гэта паслуга, напэўна, зацікавіць сем'і, у якіх выхоўваюцца падлеткі, схільныя да працяглых міжнародных размоў па «секс-тэлефоне». Пагадзіцеся, неблагая паслуга для захавання сямейнага бюджэту. Ці, скажам, вы збіраецеся ў госці да сябра, і на час вашай адсутнасці дома пераадрасуеце пры дапамозе тэлефоннай станцыі ўсе званкі з вашага тэлефона на тэлефонны нумар сябра. Такім чынам, ніводны патрэбны званок не праходзіць міма.

Усяго электронныя АТС змогуць аказваць да 46 відаў новых паслуг, але прыходзіцца канстатаваць, што іх у нашай рэспубліцы — меншасць. А пераважаюць у краіне дэкадна-шагавыя аўтаматычныя тэлефонныя станцыі, абаненты якіх могуць толькі марыць аб такім тэлефонным прагрэсе.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

*АБАРАНІ СЯБЕ САМ*

# 4. ПАЖАР

**«Галоўнае — быць пільнымі і асцярожнымі»,— такую першую параду даў нашым чытачам супрацоўнік абласной ваенізаванай пажарнай аховы падпалкоўнік Фёдар Сагановіч. Трагічных выпадкаў падчас пажару — безліч. І пералічваць іх няма сэнсу. Але памятаць пра яго наступствы трэба заўсёды. І ведаць, што рабіць у крытычных сітуацыях.**

## Пажар у кватэры

Па-першае, абавязкова трэба на ўсякі выпадак падстрахавацца. Сабрацца як-небудзь усёй сям'ёю і абмеркаваць, што рабіць, калі, крый Божа, здарыцца бяда. Бо адразу ж пасля выкліку пажарнай аховы неабходна вывесці на вуліцу старых і дзяцей. Магчыма, давядзецца скакаць з балкона ці вылазіць праз акно. Спаўзаць трэба на жываце,трымаючыся рукамі за падаконнік.

Тушыць пажар трэба вадой, шчыльнай мокрай тканінай, пяском.

Адключыце электраэнергію. Праводку, якая загарэлася, напрыклад, у вясковай хаце, трэба збіваць ці сухой палкай, ці той жа качаргой.

Калі гарыць у вядры нейкая вадкасць, яе не залівайце вадой, а накрывайце мокрай тканінай.

Не спяшайцеся адчыняць вокны і дзверы, бо свежае паветра можа сутыкнуцца з полымем і адбудзецца выбух.

Калі пакідаеце кватэру, абавязкова прычыніце за сабою дзверы. Гэта датычыць і сітуацыі ў самой кватэры.

## Гарыць тэлевізар

У дачыненні да тэлевізара таксама трэба захоўваць папярэднія правілы бяспекі. Яго нельга ставіць каля прадметаў, якія лёгка загараюцца, каля прыбораў ацяплення ці ў мэблевую «сценку».

Калі ён загарэўся, трэба адразу ж адключыць ад разеткі.

Залівайце агонь праз адтуліну задняй сценкі, знаходзячыся збоку ад тэлевізара, бо магчымы выбух кінескопа.

Выведзіце адразу людзей, якія ў тушэнні пажару не ўдзельнічаюць.

Накрыйце тэлевізар шчыльнай тканінай, вопраткай.

Асцерагайцеся прадуктаў гарэння — дым надзвычай таксічны.

Пасля ліквідацыі тэлеаварыі паведаміце ў пажарную службу і выклічце майстра.

## Як ратаваць жывёлу

Вельмі частыя трагічныя выпадкі падчас пажару ў вёсках. Асабліва калі гаспадыня ці гаспадар спрабуюць вывесці з хлява жывёлу. Па-першае, ахвяраваць жыццём нярварта. Пры кантралюемай жа сітуацыі памятайце: свінню з хлява трэба цягнуць толькі за заднія ногі. Карова ці конь не пакінуць будыніну, пакуль не накінеце ім што-небудзь на галаву, пасля чаго іх можна вывесці.

## Пажар на балконе

Знаёмы расказаў выпадак. Вярнуўся з камандзіроўкі раніцай. Лёг спаць. Прачынаецца і нічога не разумее. Вакол бегаюць міліцыянеры, пажарныя. Хата поўная дыму. Высветлілася, што нехта зверху на балкон кінуў акурак, а там ляжалі старыя рэчы. Вось і пачалі тлець. Выснова: на балконе не павінна быць нічога лішняга. Добра, што ў знаёмага дзверы з балкона ў кватэру былі зачынены. Інакш бы задыхнуўся ў дыме.



*Абаронца ад пажараў — абраз Святая Багародзіца Неапалімая купіна.*

Пры такім пажары адразу ж тэлефануйце па «01». Зрэшты, як і ва ўсіх астатніх.

Тушыце ўсімі падручнымі сродкамі, бо ёсць небяспека, што агонь хутка перакінецца на астатнія паверхі.

## Пах дыму ў пад'ездзе

Вызначце месца і паспрабуйце тушыць.

Магчыма, вы не можаце выйсці з-за агню і дыму з кватэры. Не пакідайце яе: дзверы абароняць. Шчыліны закрыйце мокрымі анучамі. Пачуўшы гук сірэны пажарнай машыны, падыдзіце да акна і клічце на дапамогу.

Не забывайце: падчас пажару карыстацца ліфтам вельмі небяспечна!

Патэлефануйце ў жыллёва-эксплуатацыйную службу і міліцыю.

З верхніх паверхаў можна перабрацца на страху. Толькі так, каб не зваліцца.

## Гарыць чалавек

Не давайце яму бегаць, бо полымя разгарыцца яшчэ болей.

Дапамажыце хутчэй скінуць вопратку, якая гарыць. Ліце ваду, сыпце снег. Пры неабходнасці накіньце на яго паліто ці іншую вопратку. Але абавязкова пакіньце адкрытай галаву, бо можа задыхнуцца.

Выклічце «хуткую» і акажыце першую медыцынскую дапамогу.Пры лёгкіх апёках накладзіце стэрыльную павязку, нічым не змазваючы скуру. Пры цяжкіх — закруціце ў чыстую прасціну. Пры шоку дайце 20 кропель настойкі валяр'яну, некалькі таблетак анальгіну, напаіце чаем.

## Пажар у гатэлі

Засяліўшыся, адразу высвятліце, дзе знаходзяцца лесвіцы і выхады.

Пры пажары ў нумары, калі не можаце патушыць, адразу выйдзіце з яго, прычыніце дзверы, але не зачыняйце на замок.

Паведаміце дзяжурнай па калідоры.

Пры пажары ў суседнім нумары зрабіце тое ж самае, папярэдне зачыніўшы вокны і дзверы.

Калі на паверсе шмат дыму, не пакідайце свайго нумара з адчыненымі вокнамі. Шчыліны, як ужо адзначалася вышэй, заткніце мокрымі анучамі.

## Загарэлася машына

Найчасцей гэта адбываецца са старымі аўтамабілямі. Палова пажараў — з-за кароткіх замыканняў у электрычных вузлах і электраправодцы. Неабходна зманціраваць выключальнік энергасілкавання. Другая нагода — разгерметызацыя паліўнай сістэмы.

Але галоўнае — безадказнасць. Асабліва калі кураць, а пасля засынаюць.

Трэба мець з сабою вогнетушыцель і пры пажары адразу заліваць агонь. Ці засыпаць пяском.

*(Працяг будзе).*

*Рубрыку вядзе Міхась БЕРАСТ.*

# А ВАША КАЛЯСКА МАЕ СЕРТЫФІКАТ?

**З 1 ліпеня спіс тавараў, якія ў нашай краіне падлягаюць абавязковай сертыфікацыі, значна пашырыўся.**

З гэтага часу прадпрыемствы-вытворцы і фірмы-экспарцёры макаронных вырабаў, маргарыну, маянэзу, спецый, мукі для прыгатавання дзіцячага харчавання, дзіцячых калясак, аўтамабільных маслаў у спажывецкай упакоўцы, газавых пліт, лінолеуму і г.д., перш чым паставіць тавар у гандаль, павінны атрымаць у лабараторыях Белдзяржстандарта на сваю прадукцыю сертыфікат, які б пацвердзіў, што яна цалкам адпавядае патрабаванням стандартаў.

Трэба заўважыць, што за мяжою сертыфікацыя прадукцыі праводзіцца ўжо даўно, але ў Беларусі яна была ўведзена толькі ў 1993 годзе. У першую чаргу пад пільную ўвагу спецыялістаў трапілі прадукты харчавання, дзіцячыя цацкі, вырабы лёгкай прамысловасці, якія кантактуюць з целам чалавека, складаная бытавая тэхніка — гэта значыць тыя тавары, якія могуць нанесці здароўю чалавека шкоду.

Сёння, нягледзячы на зусім непрацяглы тэрмін дзеяння сертыфікацыі, ужо можна гаварыць аб яе першых станоўчых выніках: па сутнасці, менавіта ўвядзенне сертыфікацыі спыніла той вал недабраякаснай прадукцыі (як імпартнай, так і айчыннай), які накаціўся на рэспубліку пасля атрымання суб'ектамі большай эканамічнай свабоды. Так, толькі летась у Мінску было адмоўлена суб'ектам у выдачы сертыфікатаў у 49 выпадках, а ў рэспубліцы — у 650 выпадках.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

# ВОШЫ АТАКУЮЦЬ, А ПРАЦУЮЧЫХ ЛАЗНЯЎ УСЁ МЕНШ

**Сёлета ў першым паўгоддзі педыкулёз (вошы) выяўлены на Гродзеншчыне ўжо ў 1814 чалавек. Аб гэтым паведаміў галоўны санітарны ўрач вобласці Віктар Пышны.**

Абсалютна відавочна, што сапраўдныя маштабы гэтай небяспечнай з'явы значна большыя. Справа ў тым, што вышэйпамянёная лічба ўзнікла на падставе толькі прафілактычнага агляду ў школах і дзіцячых садах ды яшчэ пры афармленні людзей на стацыянарнае лячэнне.

Што тут скажаш? Мыцца трэба. І гэта, канешне, залежыць перш за ўсё ад акуратнасці чалавека. Зрэшты, і ад лазні таксама. І вось тут сітуацыя, мякка кажучы, несуцяшальная. У вобласці налічваецца 960 лазняў, прычым 910 з іх — у сельскай мясцовасці, дзе, як вядома, ванна з гарачай вадой у хаце — яшчэ далёка не сістэма. Трэба, значыць, ісці ў лазню, але шмат дзе на дзвярах — замок. На пачатку мая, паводле звестак санітарнай службы, кліентаў сустракалі толькі ў 587 лазнях, а гэта 64 працэнты ад іх агульнай колькасці. Напрыклад, у Дзятлаўскім раёне з 59 лазняў працавалі 17, у Ашмянскім з 34 лазняў — 20. Нават у эканамічна даволі моцным Гродзенскім раёне з 89 лазняў былі адчынены ўсяго 39.

На думку Віктара Пышнага, асноўная праблема — недахват пячнога паліва, а перавод на дровы ідзе марудна. Але справа не толькі ў гэтым. Старшыня аднаго з райвыканкамаў даведаўся, што вышэйпамянёныя лічбы трапяць у даклад вышэйстаячага кіраўніка. І не марудзячы адрэагаваў: літаральна за некалькі дзён у раёне аднавілі сваю работу 12 лазняў.

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

## ВІНШАВАННІ

*Віншуем **Любоў Данілаўну ПАЎЛЮКЕВІЧ** з днём нараджэння. Шчасця, здароўя, сямейнага дабрабыту жадаем.*

***Мазалёвы,***
в. Опса Браслаўскага раёна.

*Віншуем дарагога дзядулю і татачку **Валянціна Антонавіча ЖДАНОВІЧА** з в. Гарадок Уздзенскага раёна з 70-годдзем. Жадаем здароўя, даўгалецця, бадзёрасці і ўсяго найлепшага.*

**Дзеці, унукі.**

*Віншуем з 60-гадовым юбілеем любую матулю **Ірыну Іосіфаўну ЛАВОР**. Жадаем моцнага здароўя, дабрабыту, радасці, шасця.*

***Сын, дачка, унук,***
*в. Юнцавічы.*

# КІРМАШ

## ШТОТЫДНЁВЫ РЭКЛАМНЫ ВЫПУСК

№ 27 (145)




## Жывая... гуманітарная дапамога

**Часта, ведучы размовы пра гуманітарную дапамогу, мы папражэкцёрску выказваем мары і спадзяванні: вось бы нам хто тэхналогію, абсталяванне падкінуў, што тыя крупы і порткі. А нядаўна нямецкія сябры, магчыма, зрабілі яшчэ лепш. У санаторыі «Случ» разбіты парк дэкаратыўных культур. Чаго тут толькі няма — побач са знаёмымі нам бярозамі і клёнамі растуць ірга, самшыт, верас, кізільнік, фарцызія, лох, эрыка, корпус, спірэя і... Спіс назваў можна доўжыць. А па колькасці — шэсць тысяч саджанцаў, і ўсе яны дастаўлены з Германіі. Агульны кошт жывой гуманітарнай дапамогі — 50 тысяч марак.**

— Такі падарунак, — расказвае генеральны дырэктар «Белміжкалгасздраўніцы», — мы атрымалі ад рэгіянальнага саюза «Везер-Эмс» Федэрацыі нямецкіх прадпрыемстваў-пітомнікаў. Цяжка знайсці словы падзякі за гэткую вось асаблівую гуманітарную дапамогу. Дарэчы, спяшаюся падзякаваць і Дэпартаменту па гуманітарнай дапамозе. Дзякуючы старанням гэтай дзяржаўнай установы не было ніякіх праблем з дастаўкай на Беларусь грузу, было знята абкладанне мытнымі плацяжамі. Словам, усюды мы сустрэлі паразуменне.

«Белміжкалгасздраўніца» і надалей мяркуе супрацоўнічаць з нямецкімі партнёрамі. Магчыма, у хуткім часе ў «Случы» ці ў якім іншым санаторыі будзе ўведзена нямецкая ўстаноўка па ачыстцы вады. Дарэчы, адрознасць нямецкага абсталявання ад нашага айчыннага досыць істотная. У прыватнасці, да ўстаноўкі дадаюцца фільтры з абагачальнікамі (напрыклад, фільтр з фторам абароніць ад карыесу і г. д.).

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

## Асабістае жыццё

**Аб. 756.** Пазнаёмлюся з сімпатычнай дзяўчынай да 20 гадоў для сур'ёзных адносінаў. Аб сабе: 175/68, 19 гадоў, без шкодных звычак. Для знаёмства пажадана фота. Мінская вобл.

**Аб. 757**. Маладая, цікавая мама пазнаёміцца з самастойным, незалежным мужчынам 30—45 гадоў. Пісаць: 246028, г. Гомель-28, пашпарт НВ 0201212.

**Аб. 758.** Пазнаёмлюся з мужчынам без ш/з да 58 гадоў. Аб сабе: удава, 52/164/76, беларуска, адукацыя вышэйшая, працую. Маю кватэру ў Лідзе.

**Аб. 759.** Мілыя дзяўчаты, пішыце, чакаю вашых пісьмаў. Аб сабе: Сяргей, 19/178/72, в/ч у г. Смаргоні.

**Аб. 760.** Пазнаёмлюся з маладым хлопцам. Аб сабе: 19/164/53, Любанскі раён. Пішыце, пажадана фота. Адкажу ўсім.

**Аб. 761.** Буду рады знаёмству з добрай працавітай жанчынай ад 35 да 45 гадоў, згоднай на пераезд для стварэння сям'і. Аб сабе: 43/164/60, жыву ў сельскай мясцовасці Мінскай вобласці.

**Аб. 762.** Адгукніся, сумленны, працавіты мужчына. Аб сабе: 52/155/55, маю жыллё, ільготную пенсію, жыву ў Баранавічах.

**Аб. 763.** Пазнаёмлюся з дзяўчынай да 25 гадоў. Аб сабе: 23/175/70, без шкодных звычак. Падрабязнасці пры перапісцы. г. Баранавічы.

СІТУАЦЫЯ

## «А ДАВЕДКА ЁСЦЬ?»,

### *Альбо як даказаць, што ты не перакупшчык*

Сітуацыя, у якую нядаўна трапіў наш чытач, магчыма, і не вельмі тыповая, аднак наўрад і выключная. Умоўна яе можна падзяліць на дзве часткі. Першая: чалавек не хоча нікога падманваць, дзейнічае без усялякіх хітрыкаў і... застаецца ў фінансавым пройгрышы. Другая: навучаны горкім вопытам, ён ідзе іншым шляхам. У выніку, што датычыцца грошай, дык яўна выгадней, чым у першым выпадку. Але на душы «асадак» ад спосабу, якім гэтая выгада дасягнута. Зрэшты, аб усім па парадку.

Міхаіл Іванавіч каля трыццаці гадоў служыў у Савецкай Арміі. Пасля дэмабілізацыі, у пачатку 80-х, прыехаў у Гродна, загадзя пабудаваўшы тут кааператыўную кватэру. Працаваў, як і многія адстаўнікі, у заводскай ахове. А паміж дзяжурствамі — хутар непадалёк ад абласнога цэнтра, дзе нарадзіўся і дзе пражывала маці. Паступова гаспадарка пашыралася — да агарода, свіней і курэй далучыліся карова, конь. Часу на сумяшчальніцтва з работай у горадзе ўжо не было. Таму Міхаіл Іванавіч (асабліва пасля таго, як праводзіў у апошні шлях сваю маму) практычна цалкам пераключыўся на клопаты па хутарской гаспадарцы. Што з гэтага меў? Канешне, была карысць і сабе, і дзецям (бульба, сала, яйкі, малако, сыр, смятана), аднак нейкага капіталу сабраць не ўдалося. На гандаль прадуктамі з прысядзібнага ўчастка проста не хапала часу. Таму і вырашыў Міхаіл Іванавіч скараціць жывёлагадоўчую галіну сваёй гаспадаркі. Вядома, пры гэтым хацелася атрымаць і пэўную капейчыну.

Першым трапіў «пад скарачэнне» наймалодшы «жыхар» хутара. Бычка накіравалі на дарошчванне ў адзін з суседніх калгасаў. Там, па чутках, былі самыя выгадныя ўмовы для здатчыкаў. Вось якая атрымалая «выгада». Бычка зважылі, забралі, выдалі квітанцыю і паведамілі нумар тэлефона, па якому трэба цікавіцца наконт выплаты грошай. Чакаць давялося месяц. За гэты час, зразумела, інфляцыя на месцы не стаяла. Зрэшты, Міхаіла Іванавіча больш уразіла іншае. «За грашыма прыязджайце абавязкова з даведкай аб прысядзібным участку», — сказалі яму, выдаўшы квітанцыю за здадзенага бычка. Ёсць даведка — значыць, жывёла твая, ты не перакупшчык. Няма даведкі — плаці падатак, як і кожны прадпрымальнік.

Здавалася б, што за праблема для Міхаіла Іванавіча? І суседзі — хутаране, і ўсе ў бліжэйшай вёсцы пацвердзяць, што ён ніколі не купляў свіней ці бычкоў з мэтай атрымаць «навар» на перапродажы, а гадаваў жывёлу ўласным «мазалём». Аднак такія звесткі — не дакумент. А даведку аб тым, што гэты бычок з твайго прысядзібнага ўчастка, у сельсавеце не возьмеш. Справа ў тым, што Міхаіл Іванавіч, хаця і нічым не адрозніваецца ад тутэйшых сялян (нават малако здаваў калгасу), але членам апошняга не з'яўляецца, прапісаны ў гарадской кватэры. У выніку прыкладна з 3 мільёнаў рублёў, якія ён мог атрымаць за свайго бычка пры наяўнасці даведкі, 300 тысяч забралі ў якасці падатку. Па словах касіра, акрамя Міхаіла Іванавіча, падатак налічылі і на яшчэ аднаго здатчыка. Напэўна, ён таксама не перакупшчык, паколькі малаверагодна, што ў апошняга не было б усё шыта-крыта з дакументамі. Бо для гэтага зусім не абавязкова ўступаць у калгас. Можна нават і не пражываць у сельскай мясцовасці.

Другім разам, здаўшы сваё мяса ў спажыўкааперацыю, Міхаіл Іванавіч чакаў грошай два тыдні і да таго ж не плаціў падатак. Для гэтага ён дамовіўся са знаёмым калгаснікам, і той узяў у сельсавеце даведку, што ёсць прысядзібны ўчастак і адтуль бык. Па пашпарту гэтага чалавека Міхаіл Іванавіч і атрымаў грошы за сваю прадукцыю. Дарэчы, не выключана, што такім жа прыёмам карыстаюцца і гараджане, якія гадуюць жывёлу на дачным участку.

Якая ж выснова? Канешне, прадпрымальнік, які скупляе сельскагаспадарчую прадукцыю для далейшага перапродажу, павінен плаціць падаткі. На тое і кантралюючыя органы, каб вызначыць такіх камерсантаў. А што датычыцца чалавека, які сваімі рукамі выгадаваў свінню ці бычка, але ёсць нейкія «нестыкоўкі» з прапіскай... Няўжо толькі фіктыўная даведка можа пацвердзіць, што ты не перакупшчык?

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

## ПРАДАЕЦЦА

◆ дом пад дачу, новы, малады сад, агарод 20 сотак, лес — у в. Мядзведня Старадарожскага раёна.
*Тэл. у Слуцку 4-24-12;*

◆ дом у Нясвіжы за 3000 у.а.
*Тэл. (8-270) 5-38-39;*

◆ два дамы (адзін — у райцэнтры Гарадок, другі — у цэнтры калгаса, за 20 км ад горада), або мяняю на кватэру ў Віцебску ці іншых абласных гарадах Беларусі.
*Тэл. у Віцебску 33-65-91, у Гарадку — 2-22-15;*

◆ матацыкл «ІЖ-Юпітэр-5» з каляскай, у добрым стане.
*Тэл. у Клецку (8-293) 5-40-83, пасля 18.00;*

◆ «ГАЗ-53» фургон, цана дагаворная.
*Тэл. у Клецку (8-293) 5-33-16, пасля 18.00;*

◆ дом у в. Мікалаеўшчына Стаўбцоўскага раёна, тэлефон, сад, 25 сотак агарод.
*Тэл. у Ваўкавыску 2-61-64;*

◆ рухавік да «М-412», новы, касілка да матаблока.
*Тэл. у Добрушы (8-02333) 2-39-44;*

◆ трактар «МТЗ-50» (рухавік Д-240), прычэп 2ПТС-4.
*Тэл. у Навагрудку 2-24-15;*

◆ недабудаваны дом з г/пабудовамі ў г. Навагрудку.
*Тэл. (8-01597) 2-32-19;*

◆ дом у Крупскім раёне, каля возера Сялява.
*Тэл. у Лепелі (8-02132) 4-80-71;*

◆ л/а «ІЖ-комбі» 1987 г. в., капрамонт у 1997 г.
*Тэл. (8-01713) 7-61-29;*

◆ «ВАЗ-21063» 1985 г. в. у добрым стане; медагонка.
*Тэл. у Глыбокім 2-42-91, пасля 18.00;*

◆ дом з г/пабудовамі ў в. Гарадзілава Маладзечанскага раёна.
*Тэл. (8-271) 5-62-68;*

◆ дом у в. Княгінін Мядзельскага раёна з г/пабудовамі.
*Тэл. у Мядзелі 5-18-73;*

◆ дом у в. Швакшты Мядзельскага раёна — 2 тыс. у.а.
*Тэл. у Мядзелі 5-18-83;*

◆ дом цагляны, 2-павярховы з водазабеспячэннем, каналізацыяй, гаражом, садам на беразе возера Мястра.
*Тэл. у Мядзелі 5-40-81;*

◆ л/а «ІЖ-комбі» 1986 г.в., магнітола, фаркоп, печка.
*Тэл. (8-215) 5-32-56;*

◆ л/а «ГАЗ-20» у добрым стане.
*Тэл. у Валожыне (8-272) 5-44-27, пасля 20.00;*

◆ дом, 20 сотак зямлі ў Капыльскім раёне.
*Тэл. (8-218) 5-49-91;*

◆ дом недабудаваны ў г. Валожыне, маюцца г/пабудовы, гараж, участак 15 сотак.
*Тэл. (8-01772) 4-46-65;*

◆ катэдж 2-павярховы ў в. Дзераўная Слонімскага раёна з г/пабудовамі, участак 15 сотак.
*Тэл. (8-297) 7-36-67, 3-22-72;*

◆ зруб 9x11 у г. Іўе і іншыя матэрыялы.
*Тэл. (8-017) 251-06-48;*

◆ чабурэчніцы, пельменніцы пластмасавыя.
*Тэл. (017) 253-92-26;*

◆ л/а «ІЖ-2715» 1986 г. в.; дрэваапрацоўчы станок да МТЗ-12; зварачны апарат, танна.
*Тэл. у Гродне 44-26-70;*

◆ «Масквіч-2140», 1980 г.в., капрамонт 1997 г. — 650 у.а.
*Тэл. (8-245) 5-73-53;*

◆ дом у Баранавічах, газ, вада, г/пабудовы, сад, ці мяняю на кватэру ў Мінску.
*Тэл. у Мінску 270-56-56;*

◆ дом, абложаны цэглай, з г/пабудовамі ў Мядзельскім раёне.
*Тэл. 5-82-63;*

◆ дом у в. Багушы Шчучынскага раёна, г/пабудовы, участак 30 сотак, рэчка, лес.
*Тэл. 3-87-18, увечары, ранкам;*

◆ трактар «Т-25» без кабіны.
*Тэл. у Нясвіжы (8-270) 5-39-49;*

◆ кватэра 2-пакаёвая ў г. Маларыта Брэсцкай вобл.
*Тэл. (8-02332) 2-64-75;*

◆ стары гадзіннэк з боем у футарале.
*Звяртацца: в. Гудзевічы, вул. Садовая, 9 Мастоўскага раёна. Новік Г. М.;*

◆ «ГАЗ-2410» 1990 г. в., бензін А-76, антыкаразійная апрацоўка.
*Тэл. у Смаргоні (8-01592) 9-31-37, увечары, у Мінску 241-75-45;*

◆ вясельны ўбор 48-га памеру.
*Тэл. у Астравецкім раёне 2-47-74;*

◆ матацыкл «ІЖ Ю-2к» з каляскай у добрым стане, з/ч.
*Тэл. (8-017) 299-26-64;*

◆ цыбуліны цюльпанаў.
*Звяртацца: 223740, п/а Махнавічы Салігорскага раёна, Рудзеня Мікалай;*

◆ электразварачны апарат на 220 В;

◆ батарэі ацяпляльныя.
*Тэл. у Мастоўскім раёне 2-43-98;*

◆ дом з г/пабудовамі ў в. Кракаўка (2 км ад Ашмян), участак 25 сотак.
*Тэл. у Смаргоні 5-11-63.*

## РОЗНАЕ

◆ мяняю 1-пакаёвую кватэру ў Джанкоі (Крым) на гарады Беларусі або прадам.
*Тэл. у Гомелі (8-0232) 72-63-70, пасля 19; 48-94-78;*

◆ мяняю 2-пакаёвую кватэру ў Навагрудку на кватэру ў Салігорску.
*Тэл. у Салігорску 2-40-30;*

◆ куплю 2-пакаёвую кватэру ў Докшыцах, Глыбокае ці Вілейцы.
*Тэл. у Валожыне 5-52-89;*

◆ куплю старыя фотаапараты, аб'ектывы, значкі, вайсковую форму (да 1958 г.), мікраскоп.
*Тэл. (017) 253-24-41;*

◆ мяняю 2-пакаёвую кватэру ў Бахчысараі (Крым, 25 км ад мора) на кватэру ў гарадах Беларусі.
*Тэл. у Бахчысараі 2-94-27;*

◆ ксеракопія ф. А4 — 1100 руб.
Мін. заказ — 500 копій.
*Тэл. 253-92-26;*

◆ мяняю л/а «Ніва» 1982 г. в. на «VW-Гольф-2» 3-дзверны, бензін, 1982 г. в., або прадам.
*Тэл. у Мастах 2-63-28;*

◆ мяняю 3-пакаёвую кватэру ў Паставах на 2-пакаёвую ў Маладзечне або Лузе.
*Тэл. у Паставах 2-51-97.*

## ВІНШАВАННІ

*Віншуем дачушку **Валянціну Якаўлеўну БАЛВАКА** з днём нараджэння. Жадаем здароўя, шчасця і ўсяго найлепшага.*

**Бацькі,** *в. Забалоцце.*

*Віншую сябра **Аляксандра АСІНСКАГА** з 20-годдзем. Жадаю ўсяго самага добрага, моцнага здароўя, шчасця, вялікай любові.*

**Таццяна,** Крупскі раён.

*Віншуем **Валерыя Уладзіміравіча СКРАБЦА** з днём нараджэння. Жадаем шчасця і здароўя, хай усе твае мары споўняцца.*

**Сябры**
з в. В.Арлы Столінскага раёна.

*Віншую з 40-годдзем дарагога пляменніка **Віктара Уладзіміравіча ГАРБУЗА** з Мінска. Шчасця, здароўя, доўгага веку.*

**Рашчэня К.І.,** в. Касцюкі.

## ЗВЯЗДА

### Купон для бясплатнай прыватнай аб'явы

**Запоўніце разборліва, выражце і вышліце на адрас рэдакцыі**
**220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 А.**

**АБАВЯЗКОВЫЯ звесткі не для друку: ваша прозвішча, адрас, хатні тэлефон.**

**Тэлефон для даведак 232-31-98.**

*Увага! Неразборліва запоўненыя купоны не разглядаюцца і не вяртаюцца.*
*Пры віншаванні ўказвайце прозвішча, імя, імя па бацьку таго, каго трэба павіншаваць.*

ЗВЯЗДА
14 ліпеня 1998 г. 7

ЖЫЛЛЁ

## Гэта салодкае слова «кватэра»...

**У чэрвені ўдзельнікі дзяржаўнай праграмы жыллёвага будаўніцтва «Рацыянальны дом» інвесціравалі ў эканоміку краіны рэкордны аб'ём сродкаў — 23 мільярды рублёў. Гэта ў 2,5 раза больш, чым звычайна, і амаль удвая перавышае рэкордны паказчык сакавіка, калі памер інвестыцый склаў 12 мільярдаў рублёў.**

На думку намесніка генеральнага дырэктара асацыяцыі «Рацыянальны дом» па сувязях з грамадскасцю Ірыны Бароўскай, гэтая акалічнасць тлумачыцца тым, што людзі нарэшце паверылі ў праграму. Напрыклад, істотна павялічылася колькасць мінчан, якія заключылі дагаворы на будаўніцтва кватэр у яе рамках. У чэрвені гэты паказчык павялічыўся ў параўнанні з красавіком і маем у 1,5 раза. Сярод кліентаў, у прыватнасці, значна ўзрасла доля тых, хто не стаіць на ўліку на паляпшэнне жыллёвых умоў.

Усяго з пачатку рэалізацыі дзяржаўнай праграмы жыллёвага будаўніцтва «Рацыянальны дом» (крыху больш года) яе ўдзельнікамі сталі каля 1200 грамадзян. На іх асабістых рахунках у АСБ «Беларусбанк» назапашана ўжо больш як 95 мільярдаў рублёў. Зараз асацыяцыя вядзе будаўніцтва ў Мінску трох шматкватэрных дамоў новага пакалення з агульнай жылой плошчай больш за 10 тыс. кв. метраў. Завяршыць іх будаўніцтва плануецца ў другім-трэцім квартале 1999 года. Пачалося і праектаванне яшчэ пяці дамоў. Вядзецца праца і па распаўсюджванню праграмы «Рацыянальны дом» на рэгіёны краіны.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## АД ДЗЯЦЕЙ НА ЧЫГУНЦЫ НЕСПАКОЙНА

8 ліпеня ў дзяжурных часцях транспартнай міліцыі тэлефон проста распаліўся. Амаль палова гэтых паведамленняў — ці накладанне пабочных прадметаў на рэйкі, ці біццё лінзаў, што ў аднолькавай ступені ствараюць пагрозу бяспечнаму руху паяздоў. Сярод выяўленых праваларушальнікаў, як правіла, дзеці.

На перагоне «Свіслач—Гомель-Паўночны» значны ўчастак чыгуначнага пуці быў завалены камянямі. Толькі дзякуючы пільнасці машыніста дызель-поезда «Гомель—Хойнікі» наезд удалося прадухіліць. Аператыўна прыбыўшыя на месца здарэння супрацоўнікі Гомельскай транспартнай міліцыі тут жа затрымалі дзесяцігадовага хлопца, вучня Краснінскай СШ.

Самі на сябе былі пакінуты двое бабруйскіх хлапчукоў —дзевяці і сямі гадоў. Апынуўшыся на 333-м км перагона «Савічы—Целуша», яны нагрувасцілі цэлую гару з камення перад дызель-поездам «Целуша—Асіповічы», але былі затрыманы супрацоўнікамі Бабруйскай транспартнай міліцыяй.

На Магілёўскім транспартным вузле на шырокую нагу «пагаспадарыў» 11-гадовы хлопец са Шклова, вучань СШ № 4. На станцыі Рыжкавічы ім знішчана 18 святлафорных лінзаў.

Цяпер бацькам гэтых школьнікаў давядзецца адказваць на непрыемныя пытанні ахоўнікаў правапарадку, а некаторым і выкладваць кругленькую суму за нанесены ўрон. Транспартная міліцыя да таго ж нагадвае, што падобныя выбрыкі дзяцей на чыгунку мяжуюць з трагедыяй і могуць выклікаць гібель самых жа дзяцей.

**Віктар БЫКАЎ,**
**прэс-група УУСТ.**

**Усё, што датычыцца разведвальнай дзейнасці, звычайна пакрыта заслонай таямнічасці. Тым больш невядомыя нам «шпіёнскія страсці» сівой даўніны. «Між тым, выведная служба ў нашай краіне мае больш чым паўтысячагадовыя карані, — сцвярджае супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Уладзімір КАНАНОВІЧ, — аб гэтым сведчаць і тагачасныя летапісы, і афіцыйныя дакументы».**

Уладзімір КАНАНОВІЧ:

# «РАЗВЕДВАЛЬНАЯ СЛУЖБА Ў БЕЛАРУСІ МАЕ БОЛЬШ ЧЫМ ПАЎТЫСЯЧАГАДОВЫЯ КАРАНІ»

### «Ганаровыя шпіёны»

Натуральнай функцыяй любой дзяржавы з'яўляецца збор інфармацыі пра суседа альбо патэнцыяльнага праціўніка. У эпоху позняга сярэднявечча, распавядае спадар Кананові, калі яшчэ не было самастойнай прафесіі разведчыка, ролю агентаў выконвалі ў першую чаргу дыпламаты. Дыпламат тых часоў з'яўляўся своеасаблівым «espion honorable» — «ганаровым шпіёнам». Такая дзейнасць не толькі не лічылася ганебнай, але, наадварот, усяляк заахвочвалася кіраўніцтвам усіх без выключэння краін. Вядомы палітычны дзеяч і дыпламат другой паловы XV стагоддзя Філіп дэ Камін шчыра прызнаваўся ў сваіх мемуарах: «Вы не здолееце накіраваць іншага гэтак жа добрага і надзейнага шпіёна (як пасол. — **Ц.Х.**), які меў бы такую магчымасць глядзець і слухаць».

Абавязкі паслоў у Вялікім княстве Літоўскім (ВКЛ) выконвалі, як правіла, асобы шляхецкага паходжання, што рэкрутаваліся з паноў Рады (членаў вышэйшага кіруючага органа) альбо служачых гаспадарскай канцылярыі. Сярод іх і вербавалі тагачасных «шцірліцаў». Паступаўшая ад іх інфармацыя была самай разнастайнай. Яна датычылася як палітычных, так і ваенных спраў, унутраных і знешніх адносінаў той ці іншай краіны. Цікавіла ўсё, аж да звычайных чутак, якія цыркулявалі сярод насельніцтва суседняй дзяржавы.

Канцавым пунктам перадачы інфармацыі было вышэйшае кіраўніцтва княства — гаспадар (вялікі князь) альбо паны Рады. Часта звесткі траплялі да іх, прайшоўшы вельмі доўгі ланцужок пасрэднікаў. У такім разе сістэматызацыяй патрэбных на гэты час паведамленняў займалася дзяржканцылярыя.

Разумеючы, што дыпламаты практычна ўсіх краін, акрамя непасрэдных сваіх функцый, «грашаць» яшчэ і выведнай дзейнасцю, процілеглы бок прымаў адпаведныя меры перасцярогі. Найбольш жорсткія адносіны да дыпкорпуса былі ва ўсходніх краінах, дзе надзвычай абмяжоўвалася свабода пасольскіх дзеянняў. У Маскоўскай дзяржаве, да прыкладу, дыпламат мог пакінуць сваю рэзідэнцыю (часта размешчаную па-за межамі горада) толькі падчас прыёму ў Крамлі альбо каб наведаць царкву. І не больш таго!

У Вялікім княстве Літоўскім адносіны да пасланцоў замежных краін працяглы час былі даволі мяккімі. Тут доўга не існавала зладжанай сістэмы ізаляцыі, як у іншых дзяржавах. Гэтым часта карысталіся дыпламаты-выведнікі. Толькі ў другой чвэрці XVI стагоддзя ў ВКЛ была ўведзена строгая рэгламентацыя паводзінаў дыпламатаў. Вызначалася, у які час яны павінны пакінуць уласную рэзідэнцыю, куды яны могуць і не могуць ісці, якім маршрутам карыстацца.

Да таго ж дыпламатаў-чужынцаў звычайна суправаджалі прадстаўнікі краіны знаходжання — прыставы — як у рэзідэнцыі, так і падчас руху. Такі спадарожнік далучаўся да пасольскага «картэжу» адразу ж пасля перасячэння мяжы. Функцыя прыставаў была дваякая. Па-першае, яны павінны былі клапаціцца пра матэрыяльнае забеспячэнне дыпламатаў, іх харчаванне, корм для коней. Таксама гарантаваць пасольству бяспеку праезду. Але, па-другое, прыставы мелі абавязак пільна сачыць за ўсімі ўчынкамі замежных гасцей, жорстка абмяжоўваючы ўсякія іх кантакты з мясцовымі жыхарамі. Дзеля гэтага дыпламатаў наўмысна везлі праз маланаселеныя абшары, мінаючы буйныя гарады.

### Перабежчыкі, шпегі ды лазукі

Другой катэгорыяй інфарматараў ва ўсіх еўрапейскіх краінах з'яўляліся купцы. Гурмы купцоў суправаджалі пасольскія початы, таму на іх як бы аўтаматычна распаўсюджваўся дыпламатычны імунітэт. Але не паўсюдна. З маскоўскіх крыніц вядома, што ўзімку 1493 года былі схоплены смаленскія купцы, браты Багдан і Алехна Сялевіны, якія быццам бы займаліся ў Маскве выведніцкай дзейнасцю на карысць вялікага князя літоўскага Аляксандра і нават пасылалі да таго свайго чалавека з сакрэтнай інфармацыяй. Абодва браты былі пакараны вельмі сурова. Багдан, не вытрымаўшы катаванняў, памёр адразу, а Алехну, які аказаўся дужэйшым і прайшоў праз усе пакуты, у рэшце рэшт адсеклі галаву.

У даследчыкаў не выклікае сумненняў супрацоўніцтва з кіраўніцтвам ВКЛ і некаторых чарнаморскіх купцоў. Менавіта яны ў 1494 годзе паведамлялі Аляксандру Казіміравічу пра слабасць абарончых збудаванняў порта-фартэцыі Белгарад, да адваёвы якога ў той час рыхтаваліся ў Вільні і Кракаве.

Добра ведаючы, што сярод гандляроў часта трапляюцца, як у той час называлі, лазукі, іх размяшчалі ў спецыяльных рэзідэнцыях — гасціных дварах. У Вільні такі двор быў пабудаваны ў 30-я гады XVI стагоддзя. Дагэтуль купцы жылі ў розных канцах горада, па прыватных дамах, што палягчала выведную справу.

Пра тое, што праблема шпіёнаў на самай справе была вельмі актуальнай у Літоўскім княстве, сведчаць мемуары тагачаснага палітычнага дзеяча Міхалона Літвіна (сярэдзіна XVI ст.). Ён прыгадвае, што сталіца ВКЛ Вільня была «перанасычана шпегамі...» Як прыклад аператыўнасці ўсходніх шпегаў аўтар прыводзіць наступны факт: калі ў 1529 годзе згарэў віленскі Катэдральны касцёл, у якім знаходзілася каля 300 варожых штандараў, навіна стала вядомая ў Маскве ў вельмі сціслыя тэрміны.

— Калі суаднесці інфармацыйна-выведніцкую службу ў Вялікім княстве Літоўскім з адпаведнымі структурамі ў суседніх краінах, да якіх высноў мы прыйдзем?

— Трэба прызнаць, што эфектыўнасць разведслужбы ў ВКЛ усё ж была параўнальна недасканалай — у пэўнай ступені з-за няспеласці тых органаў (напрыклад, пасольскай службы), што адказвалі за гэты накірунак дзейнасці. Дарэчы, з пункту гледжання арганізацыі, наладжанасці дзеянняў і, як вынік, эфектыўнасці ўзорным і неперавзыдзеным з'яўляўся «шпіёнскі механізм» Тэўтонскага (Нямецкага) ордэна. У нашым рэгіёне ён быў па-за канкурэнцыяй.

Мяне асабіста здзіўляе, як хутка яны перадавалі інфармацыю з месца падзеі свайму кіраўніцтву. У 1514 годзе, калі разгарэлася бітва за Смаленск, весткі вокамгненна трапілі да вялікага магістра ў Мальбарку. Прычым тэўтонскі інфарматар перадае прыватныя размовы маскоўскага князя Васіля III настолькі дакладна, быццам увесь час пры іх прысутнічаў...

**Цімур ХІЛЬКЕВІЧ.**




Мясціны тут, без перабольшання, курортныя. Лянівa блішчыць на сонцы Прыпяць, жоўценькія пляжы запоўнены народам, з высокага правага берага адкрываецца панарама — чыста беларуская панарама: лугавіны, лясы, зноў лугавіны і зноў лясы. Я тут пачаў разумець Караткевіча, які на схіле жыцця зрабіў падарожжа па Прыпяці на лодцы. Менавіта па Прыпяці...

Можа быць, праўдай будзе тое, што вузел беларускай дзяржаўнасці завязаўся ў паўночна-заходняй частцы краіны, а тут, на поўдні, — беларускі дух, характар? Хоць, вядома, усё гэта адносна...

Яшчэ тут жывуць людзі і менш за ўсё думаюць пра гістарычныя катэгорыі і курортна-краязнаўчы бок свайго жыцця. У іх задачы больш простыя, зямныя. Вясной пасадзіць, летам дагледзець, а ўвосень сабраць тое, што пасадзілі.

Вось як гэтыя муж і жонка. Яны толькі што выйшлі з агарода. Селі адпачыць. Тут мы іх і знялі.

Ці гэты дзядзька з добрым тварам, мясцовы ляснік, што пасвіў сваіх коз непадалёк ад Прыпяці.

Простыя рэчы, простыя людзі, простае жыццё. Што можа быць лепш? І горш...

**Сяргей ШАЎЦОЎ.**

Фота Андрэя ШАЎЦОВА.





## Як Міхаіл Асокін прывёў урадавую дэлегацыю «ў кому»

***Дзве асноўныя якасці павінны быць у вядучага інфармацыйнай праграмы. Першая — яму неабходна добра ведаць тое, аб чым паведамляе, і другое — ён павінен быць абаяльным настолькі, каб змякчаць любую, нават самую непрыемную навіну. Сюды можна дадаць і яшчэ адну рысу, якую, несумненна, павінен мець вядучы інфармацыйных праграм, — непрадузятасць. Думаю, вы пагодзіцеся, што ўсімі гэтымі якасцямі валодае вядучы інфармацыйнай праграмы НТБ «Сёння ўвечары» Міхаіл Асокін, якую ён вядзе па чарзе з Таццянай Мітковай. Вы, напэўна, памятаеце іх абоіх як вядучых папулярнай праграмы ТСН, якая выходзіла на першым канале тэлебачання. Сёлета Міхаіл Глебавіч на штогадовай цырымоніі «Тэфі» атрымаў прыз «Лепшы вядучы інфармацыйнай праграмы 1997 года». Пасля атрымання гэтай прэміі Міхаіл Асокін даў інтэрв'ю карэспандэнту «Звязды».***

**— Міхаіл Глебавіч, што вы запісваеце ў сваім блакноціку, толькі з'явіўшыся ў кадры праграмы «Сёння ўвечары»?**

— Я нічога не запісваю. Гэта проста недарэчна адразу глядзець у камеру. Многія вядучыя пачынаюць весці перадачы паразнаму. Я проста пішу якую-небудзь фразу на паперы, і гэта ўжо стала часткай майго іміджа. Я наогул стараюся ўсё рабіць па-рознаму.

**— Нялёгкае жыццё тэлевядучага, асабліва інфармацыйнай праграмы, якую глядзяць людзі з самымі рознымі поглядамі. Некаторыя падаюць інфармацыю як бы напрамую ад сябе — суперажываючы ці, наадварот, радуючыся добрай навіне. На вашым жа твары заўсёды непрадузятасць. Ці цяжка яе захоўваць і ці патрэбна яна наогул?**

— Гэта наша работа — расказваць аб тым, што адбываецца навокал. Няважна, блізка ці далёка. На мой погляд, вядучы інфармацыйнай праграмы павінен улічваць той момант, што глядзяць нас людзі не толькі розных палітычных поглядаў, але і рознай адукаванасці і ўзросту. Вось аб гэтым я стараюся помніць заўсёды. Не забываючыся і аб тым, што тэлестудыя — не трыбуна.

**— А як вы прыйшлі на тэлебачанне?**

— Выпадкова. Пасля заканчэння гістфака МДУ я доўгі час працаваў на радыё, у тым ліку і на вяшчанні за мяжу. Затым, у 80-х, стала модным пераходзіць на тэлебачанне, і гэтаму агульнаму парыву паддаўся і я. Час быў няпросты, краіна жыла па строгіх правілах і часам гэтыя правілы ператвараліся ў абсурд, а часам і ў нейкія забаўныя інцыдэнты. Памятаю, напярэдадні XXVI з'езда КПСС на першым канале павінна была ісці п'еса У. Шэкспіра «Многа шуму з нічога». Перайменавалі: твор класіка пільныя апаратчыкі назвалі «Каханнем за каханне». Ды што там казаць! У час маёй стажыроўкі на тэлебачанні старшыня аднаго з падмаскоўных калгасаў, куды я выехаў з рэдакцыйным заданнем, стаяў у пшаніцы на каленях — каб яна была яму па горла. І патрабаваў, каб здымалі іменна так.

**— А што вы лічыце галоўным у сваёй прафесіі?**

— Прынцыповасць і ў такой жа меры спакой. У любой сітуацыі.

**— У вас гэта заўсёды атрымліваецца?**

— Не, вядома. Вось неяк нядаўна ўжо пайшоў сюжэт у эфір, а я маўчу, не магу знайсці патрэбную паперку. І, з'явіўшыся ў кадры, прыйшлося выкручвацца: «Прабачце, — кажу, — загледзеўся».

**— Ну а «перлы» вам даводзілася выдаваць у эфір?**

— Бывала. Нядаўна чытаў інфармацыю аб адной з высокапастаўленых дэлегацый, якая знаходзілася ў Комі. Прычым апошнія два словы «прачыталіся» невыразна: атрымалася штосьці накшталт «у коме». Тады пасля невялічкай замінкі дабавіў: «у Рэспубліцы Комі». Хацеў як лепш, а атрымалася, напэўна, смешна.

Вось такая яна, наша прафесія.

**Гутарыла Вольга РАМАНЮК.**

Читателям газеты «Звезда» с наилучшими пожеланиями из Москвы. М. Осокин

